
„Васілёчкам" 50 гадоў→3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Каленія Ізаака→9


http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 47 (3054) Год LIX | Беласток, 23 лістапада 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


## Драўлянае ПАДЛЯШША

# Юбілейны выпуск конкурсу


Удзельнікі і арганізатары конкурсу. У першым радзе ў цэнтры – Пётр Наумюк з Канюк

— Якраз жыхары Гайнаўшчыны і Бельшчыны, прыпушчанскіх вёсак, маюць развінута пачуццё характва і парадку, што відаць і ў будаўніцтве, і ў адносінах да спадчыны, — прыкмеціў Антоні Масевіч, этнограф з Музея сельскай гаспадаркі імя Кшыштафа Клюка ў Цеханоўцы, суарганізатара конкурсу „На найлепш захаваны помнік вясковага драўлянага будаўніцтва ў Падляшскім ваяводстве". Людзі маюць ужо свядомасць, што драўляняе будаўніцтва гэта не прыкмета беднасці і адсталасці, а пачуцця характва, ушанавання для культуры продкаў ды гаспадарлівасці. Разам з грашовымі ўзнагародамі адзначаныя аб'екты атрымліваюць спецыяльную таблічку з інфармацыяй аб вылучэнні. Свае ўзнагароды вылучаныя гаспадары найчасцей інвестуюць у свае скарбы, якія з'яўляюцца таксама гонарам усяе вёскі і гміны. Дзякуючы конкурсу на найлепш захаваны помнік драўлянай архітэктуры папраўляецца таксама свядомасць уласнікаў драўляных будынкаў. На жаль, выпадкі няўмела праведзеных рамонтаў значна паменшылі архітэктурную каштоўнасць паасобных аб'ектаў. Паўсюдны з'явай з'яўляецца замена драўляных акон пластыкавымі. Бывае, што свякі гаспадара робіць „сваё" па сваім гусце і ведах. Ужо 707 аб'ектаў-помнікаў апрацаваны і здакументаваны — для будучых пакаленняў. Падзякаваць трэба і самаўрадам, асабліва Нараўчанскай, Чыжоўскай і Заблудаўскай гмінам, працаўнікі якіх шчыруюць дзеля знаходжання і ўдакументавання каштоўнасцей драўлянай архітэктуры.

— У вясковым краявідзе Падляшскага ваяводства ўсё яшчэ дамінуе драўлянае будаўніцтва, якое належыць да найдаражэйшых культурных каштоўнасцей нашага рэгіёна, — адзначыў Яраслаў Дважанскі, маршалак Падляшскай маршалкоўскай управы, суарганізатара конкурсу. Унікальнасць гэтай канкурэнцыі спрычыняецца да таго, што кожны год павялічваецца лік уласнікаў і карыстальнікаў драўляных будынкаў, якія заяўляюць свае будынкі на агляд. Ідэя конкурсу ад 10 гадоў тая ж — распаўсюджванне ведаў на тэму каштоўнасці і асаблівасці драўлянай вясковай архітэктуры, а таксама неабходнасці яе захоўвання, дбання аб яе. Кожная форма аховы драўляных будынкаў помнікавага значэння адыгрывае вельмі важную ролю ў захаванні нашай рэгіянальнай спадчыны для будучых пакаленняў. Ключавую ролю ў ахове драўлянага будаўніцтва адыгрывае пытанне змены ментальнасці ўласнікаў гэтых аб'ектаў. Захаванне гэтай архітэктуры служыць утрыманню культурнай тоеснасці Падляшша. Таксама мясцовыя самаўрады актыўна ўдзельнічаюць у захоўванні будынкаў-помнікаў. А якраз свядомасць уласнікаў узнагароджаных аб'ектаў адыгрывае вырашальную ролю ў іх паспяховым захаванні. Ацэньваецца таксама якасць заяўленых будынкаў, паколькі гэта конкурс на найлепш захаваную архітэктуру. Праз вылучаныя аб'екты дацэнены таксам мясцовыя дойліды, праца якіх да сённяшняга захапляе прастатой, пачуццём прапорцый і эстэтыкі.

Першае месца ў дзясятым выпуску конкурсу заняла хата Пятра Наумюка з мясцовасці Канюкі (№ 39) Заблудаўскай гміны. Дом пабудаваны ў канцы XIX стагоддзя, першапачаткова быў спалучаны з гаспадарчай часткай. У час яе аднаўлення гаспадары кіраваліся захаваннем усіх канструкцыйных дэталяў помнікавай каштоўнасці. Будынак стаіць шчытом да дарогі, падваліна спачывае на палявых камянях, між якімі шчыліны запраўлены глінай. Сцены складзены мяшанай зрубава-сомікавай канструкцыяй, навонкі бeлeныя. Драўляныя вокны падзелены на шэсць кватэр (па тры ў кожным крыле), дах крыты цэментавай дахоўкай. Хата падзелена на тры памяшканні — вялікая ізба, якая з'яўляецца кухняй і спальняй, сені і пабеленая камора. Сцены ўнутры з суровай драўніны, а падлогай з'яўляецца гліняны ток... Хата аздоблена так, як гэта рабіла даўняя ўласніца хаткі, якая жыла тут да 1998 года.

— Гэтую хатку бабуля мне пакінула, — расказвае Пётр Наумюк, адзін з трох сыноў разьбяра Уладзіміра. Гэтая хата — цёці Уладзіміравай жонкі. — Бабця Вольга Тамашук нічога там не мяняла. Дбала аб усё, але баялася змен. Засталося ўсё — гаршкі, талеркі, стол... Я стараўся зрабіць так як усё было, такімі ж матэрыяламі: глінай, белай глінкай для пячэй. Не самае важнае, якое месца маеш у конкурсе, важна, што ўдалося мне затрымаць гэты час і гэты дух. Таксама яе і маю маладосць. Думаю, што і бабка таксама хацела, каб так засталося, бо калі мне перадала хатку, чула, што я ўшаную яе думку і затрымаю яе жыццё, і яе маладосць, і маю маладосць. Жыву ў Канюках, маю таксама сваю разьбярскую майстэрню.

— Мы цэнім каштоўнасць драўніны таго будаўніцтва, і тае ўютнасці дрэва, — кажа яго бацька Уладзімір. — Асаблівa ў малых хатках, дзе драўніна адкрытая, несхаваная.

— А такая хатка, з 1936 года, — кажа Валянціна Харытанюк з Рыбал (№ 117А), таксама ў Заблудаўскай гміне. Яе дом вылучаны. — У хатцы мой тата Пятро жывуць, 87 лет маюць. Хаджу туды штодзень (жыву ў блёку за Рыбаламі). Хатку сам тато будавалі, там на сядліску трох будаваліся, тры хаткі стаяць, наша пасярэдзіне, вылётная дарога аж да стадолы. Дбаецца пра хатку, дык стаіць яна.

— Мы ад імя Заблудаўскай гміны, з Цэнтра культуры ў Заблудаве, з Барбарай Кулікоўскай, — кажа Цэцылія Галіцкая, — ад сямі гадоў займаемся захаваннем нашых драўляных помнікаў. Проста ездзем па гміне, шукаем... Адзін, другі, трэці домік. Стараемся знайсці ўласнікаў, а гэта бывае і няпроста. У хатцы спадарыні Харытанюк так, як быццам увайсці ў яе пяцьдзесят гадоў таму. Чыста, сціпла, дываны, ходнічкі, мэбля, кухня, посуд, запечак, пасажнае Валіна вышыванне, падушкі... Адна яшчэ сурвэта маці Лідзіі. У каморы яшчэ крукі на кумпякі і сала... І вакол хаткі таксама ідылічны краявід, агародчык, дрэўца, лавачка, на лавачцы дзедка з коцікам... Частка нашай гміны ў бок Бельска мае хораша захаваныя дамы і іх інтэр'ер.

— Мы хатку ў Новаберазове (№ 112, III месца) купілі ад сваёй цёці, — кажа Славамір Кірылюк, які жыве і працуе ў Супраслі. — А тое, як яна выглядае, усё заслуга маёй жонкі Улі, для якой на сэрцы ляжыць захаванне падляшскай спадчыны. Хата пабудавана ў 1955-1956 гадах. Аднаўленне праведзена з асаблівай дбаласцю аб захаванне вясковага характару дома, пры адначасовым дастасаванні да сучасных жыллёвых стандартаў. Пераселімся сюды на пастаяннае жыхарства.

— Мы ў Катлах (хата № 25, II месца) нашу хату, пабудаваную ў 1932 годзе, трактуем як дачу, дзе на святы збіраецца ўся радня, — прызнаецца Мікалай Пацэвіч з Бельска, адстаўны паліцыянт. На ўручэнне ўзнагарод прыехаў з дзяцьмі Мартай і Артурам — выпускнікамі Бельскага белліцэя. — Мэбля тут яшчэ здавайны! Заявіць нашу хату да конкурсу намовілі мяне дзеці...

У 2014 годзе да конкурсу было заяўлена сорак пяць аб'ектаў, найбольш жылых дамоў (32), з гаспадарскіх — дванаццаць стадол, пяць шпіхераў, чатыры гаспадарчыя будынкі, адну шопку і адну лазню, а таксама двор, дворскую афіцыну і школу (якая цяпер выконвае ролю вясковай святліцы). Найбольш прапаноў (12) прыйшло з Гайнаўскага павета, 6 — з Сакольскага, 6 — з Беластоцкага, 5 — з Сейненскага, 4 — з Сямятыцкага і 2 — з Бельскага. Узнагароджаны яшчэ будынкі Евы Сулейчак з Кабылі, 14 (II месца, Перляеўская гміна), а трэцімі месцамі — у Ашкінях, 41 (Пуньская гміна), Уладзіміра Хшаноўскага — хата і стадола — у Саколі, 23 (Міхалоўская гміна), Станіславы Карнай з Цесніска-Вялікага, 3 (Янаўская гміна), гаспадарка Паўла Дуртана з Кукляў, 12 (Гібаўская гміна), хата Генрыка Тарасэвіча з Садова, 23 (Дуброўская гміна). Вылучаны аб'екты Ядвігі Беламызай з Ялоўкі, 8 (Дуброўская гміна), Мар'яна Герчака ў Старым Корніне, 54 (Дубіцкая гміна), сядзіба Ружы Грахольскай у Пабікрах, 59 (Цеханавецкая гміна), хата Марыі Гарасюк ва Урочыншчыне, 8 (Дуброўская гміна), хата Уршулі і Андрэя Гасціловічаў з Белаусаў, 11 (Янаўская гміна), хата Веры Леўчук з Чыжоў, 49, хата Кацярыны Марціновіч з Лешукоў, 8 (Нараўчанская гміна), будынак Пятра Пятроўскага з Супраслі, вуліца 3 Мая, 18, хата Антона Пыкалы з Бужыскаў, 4 (Драгічынская гміна), сядзіба Генрыка Шмігеля з Біндушкі, 1 (Збуйненская гміна). Узнагароджаныя драўляныя аб'екты будуць пазначаны адмысловай таблічай і занесены ў якасці помнікаў у мясцовыя турыстычныя даведнікі. У некаторых мясцовасцях, як у Чыжах, аж пяраста ад таблічак. З'яўляюцца яны прыкладам для іншых жыхароў як трэба захоўваць нашу спадчыну — не толькі сямейную.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ



# Выйсце



Прыгадваецца зараз стары анекдот з барадой амаль дваццацігадовай даўніны. Сустрэліся неяк кіраўнікі трох краін: Злучаных Штатаў, нейкай заходняй краіны з Еўрасаюза (якой — не так важна), і Беларусі. Амерыканскі кіраўнік кажа:

— У нас самы некваліфікаваны работнік з лёгкасцю можа зарабіць тры тысячы долараў у месяц. Каля тысячы яму хапае, каб аплаціць камунальныя расходы і, не эканомячы на ежы, пражыць месяц. Дзве тысячы штомесяц застаюцца, каб чалавек мог іх адкладваць на сваю справу, вучобу або адпачынак і не адчуваць сябе нязручна на фоне іншых, якія зарабляюць яшчэ больш.

— У нас, — кажа прадстаўнік Заходняй Еўропы, — малакваліфікаваны работнік зарабляе прыблізна гэтак жа. Толькі ў еўра. І яму таксама хапае тысячы, каб годна пражыць месяц разам з камунальнымі выплатамі. Астатнія сродкі застаюцца на яго разгляд. Хоча сваю справу заводзіць, а хоча адпачывае на іх. Яго рашэнне.

— А ў нас, — гнеўна бліскае вачыма беларускі кіраўнік, — добры работнік зарабляе каля трыста долараў. На тое, каб пражыць месяц і аплаціць камунальныя яму трэба мець мінімум чатырыста. Прыйдзе час і я разбяруся дзе ён, гад такі, бярэ яшчэ сотню.

Як кажуць у народзе, у кожным жарце ёсць крыху жарту. Астатняе — праўда. Дык вось прыйшоў той час, калі ўлада, прамы абавязак якой — падымаць эканоміку краіны і дабрабыт яе насельніцтва, так напрацавала, што ўжо не бачыць аніякага эканамічнага выйсця як толькі забраць грошы ў беспрацоўных, якіх з нядаўніх часоў вырашана называць „тунеядцамі". Які цікавы эканамічны ход!

Зараз беларуская міліцыя ды іншыя службы, прызначэнне якіх — абараняць суайчыннікаў і дапамагаць ім выжыць, замест сваіх прамых абавязкаў займаюцца пошукам неабходнай колькасці „тунеядцаў". Лічба такіх ужо агучана на самым высокім роўні. Засталося пад гэтую лічбу толькі падабраць канкрэтных людзей. З аднаго боку гэта проста. Нахапаў і прывалок. Не прывыкаць. Але ж з другога боку трэба на прамую прызнаць фальшывасць і падманлівасць самых сябе і заяў усё той жа народнай і роднай улады, бо яшчэ ўчора сцвярджалася, што беспрацоўе ў нас нейкіх пару няшчасных адсоткаў. Ну а сёння ўжо амаль дзясятая частка працаздольнага насельніцтва аказалася шкоднымі бактэрыямі на здаровым целе беларускай цудаэканамічнай мадэлі. І адкуль яны ўзяліся за адзін умоўны дзень?!

Ну калі нават знойдуць служакі тую неабходную колькасць „тунеядцаў", то што з таго? Няўжо беспрацоўныя, якім у іншых краінах плаціць дзяржава, каб маглі выжыць, могуць ўратаваць беларускую эканоміку? На гэта ж ёсць урад! Таму зараз хіба што трэба востра ставіць пытанне не пра „тунеядцаў", а акурат пра той недзеяздольны ўрад, які, акрамя як выцягваць грошы ў беспрацоўных, іншых варыянтаў папаўнення казны не мае.

А можа сапраўды пазнаходзіць тых „тунеядцаў" і адправіць іх працаваць ва ўрад?! Замест гэтых банкрутаў-міністраў! Ёсць усе падставы меркаваць, што горш не будзе, бо гэтыя ж „тунеядцы" неяк жа выжылі без дзяржаўнай падтрымкі. І пазык не панахапаліся ні ў Расіі, ні ў Міжнародным валютным фондзе... А неяк сем'і кармілі, дзетак вучылі, хаткі будавалі... Адным словам зводзілі канцы з канцамі, чым не ў стане пахваліцца міністры, чые дзеянні прыводзілі толькі да новых праблем. Напрыклад, іх апошняя прапанова з лекамі ды рэцэптамі. Яны думаюць, што як будуць купляць людзі нашы лекі, то гэтым казну папоўняць. Ды адны пошліны з замежных лекаў больш давалі! А як станучь людцы хварэць, то хто працаваць будзе? А хто бальнічныя выплачваць? А хворая нацыя, гэта ўжо фізічны генацыд. Гэтак жа як генацыд духоўны, які распачаўся пасля таго, як у беларускай мовы адабралі статус адзінай дзяржаўнай.

Дык вось! Увага! Падсумоўваючы высновы бачым, што нашы „тунеядцы" без дапамогі дзяржавы і яе міністраў выжыць могуць. Нашы міністры без дапамогі „тунеядцаў" распісваюцца ў сваім бяссіллі. Таму, хіба што, лагічным было б замяніць міністраў на „тунеядцаў". Горш, хіба што, ужо не будзе. Гэта, мабыць, засталося адзінае выйсце!

Віктар САЗОНАЎ

# Паклёпы



Апошнія дні былі поўныя падзей. Для мяне, найбольш важнымі з іх, гэта ўцёкі з Аўстраліі прэзідэнта Пуціна, які прысутнічаў на сустрэчы кіраўнікоў 20 самых магутных краін у свеце, ды мясцовыя выбары ў Польшчы, дзе перамагло, пакуль, паводле неафіцыйных апытанняў, Права і справядлівасць. (Пішу гэтыя словы ў нядзелю ўвечары). Хоць адна падзея з другой не мае нічога агульнага, спалучае іх уцякаючая ад агульнай увагі сувязь, аналагічная той, якая існуе паміж буслам і жабай. У той жа час я не думаю пра іхнія спажывецкія і несправядлівыя аднабокія суадносіны, падобныя тым, якія існуюць паміж Расіяй і Польшчай. Таму што ані малая Польшча не ў стане супрацьстаяць вялікай Расіі ў адзіночку, ані жаба праглынуць бусла, гэта вядома. Зусім іншая справа, што бусел, як і Расія, мусіць час ад часу праглынуць жабу — бусел, каб выжыць; Расія, каб захаваць сваю (на яе думку) вялікую імперскую ідэнтычнасць. Толькі што «Расія» з'яўляецца не нейкім абстрактным стварэннем, гісторыясофскім прэпаратам, але калектыўнай чалавечай свядомасцю. Гэта расіяне. У мінулым іх цікавая характарыстыка прыведзена ў рамане «Дзяцінства» Максіма Горкага: «Руская за кошт шэрасці і галечы свайго жыцця ў цэлым атрымліваць асалоду ад гора, яны гуляюць ім як дзеці, і рэдка саромеюцца, што яны няшчасныя. На бязмежных прасторах аднастайнасці жыцця і няшчасце ёсць святам, і пажар — забаўкай, на пустым твары нават шнар з'яўляецца ўпрыгожаннем». У якой ступені гэтая характарыстыка адпавядае расіянам сёння? А як гэта адносіцца да паняцця «Расія»?

Узаемнае суіснаванне гэтых двух розных відаў, пералічаных вышэй пар, ідэнтычна безумоўнае, хоць і неадназначна распісанае спецыяльна для няўдачнікаў і пераможцаў: аднаму Прыродай, другому Гісторыяй. Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што ў абодвух выпадках яны клапаціліся пра роўныя магчымасці для кожнага з бакоў. Для таго, каб мець сілу ўцякаць ад бусла, жаба павінна нажэрціся мушак, але не дай Бог абжэрціся. Гэтак жа, як да жабы, таксама адносіцца да Польшчы. Абжорства ў любым відзе прыводзіць да ляноты і, такім чынам, да трагічнага канца. Ды хопіць гэтых параўнанняў!

З перамогі на самаўрадавых выбарах радуецца Права і справядлівасць, і смуткуе з-за страты пераможаная Грамадзянская платформа. Абодва бакі паводзяць сябе так, быццам бы яны ўдзельнічалі ў дзвюх розных грамадзянскіх падзеях. Як быццам паралельна праходзіла ў краіне ўсенароднае галасаванне аб перамоцы ў тых, якія прайгралі. А гэта ж не палітычныя партыі павінны былі быць бенефіцыянтамі выбараў у органы мясцовага самакіравання. Па вызначэнні мясцовага самакіравання, гэтыя органы павінны быць выбраны з палітычна незалежных лідараў грамадзянскіх ініцыятыў; з найбольш актыўных у сваіх грамадах, незалежна ад іх палітычнай перакананасці да партыйнай прыналежнасці. Проста з грамадзян, гатовых узяць на сябе цяжар кіравання адміністрацыяй, у адпаведнасці з яе статутнымі абавязкамі і прагматычнымі мэтамі, заяўленымі ў перыяд перадвыбарчай агітацыі ў мясцовым асяроддзі. У такім абсягу іх дзейнасці падтрымка мясцовых структур палітычных партый была б неацэннай. На жаль, у польскай палітычнай рэальнасці гэтая з'ява часам даволі рэдкая, і, як правіла, нерэальная. Перш за ўсё таму, што ідэя самакіравання, размытая ў палітычнай практыцы, набывае кшталт нефармальнай агентуры адной партыі або лакальна дамінуючага саюза дзвюх або больш партый. Самаўрады ў Польшчы цалкам разрабаваны палітычнымі партыямі. Можа, прыйшоў час, каб вярнуцца да вытокаў грамадскага самакіравання? Асабліва на ўзроўні гмін і паветаў.

Прэзідэнт Пуцін, які паляцеў у Аўстралію, каб разам з іншымі прэзідэнтамі турбавацца пра будучыню свету, вярнуўся адтуль раней... хворы. Ніхто не клапаціўся ў гэты раз аб яго добры настрой, які вызначае — як вядома — лёс свету. Патрактавалі яго там нахабна, папракнуўшы і ў незаконнай анексіі Крыма, і ў варожым ваенным умяшанні ва Украіне. Тым часам, паводле прэзідэнта Пуціна, гэта самі грамадзяне Крыма аб'явілі ў дэмакратычным галасаванні аб далучэнні да расійскай радзімы, а калі гаворка пра расійскія войскі ва Украіне, дык гэта паклёп ворагаў Расіі. Не згадаў іх, аднак, па імені. Ах, гэтыя паклёпы, паклёпы...

Міраслаў ГРЫКА

## Вачыма еўрапейца

# Экспазе новага міністра



Некалькі разоў пісаў я ў гэтай рубрыцы пра чарговыя штогадовыя заявы кіраўнікоў знешнепалітычнага ведамства з парламенцкай трыбуны наконт польскай замежнай палітыкі. На гэты раз аб запланаваных напрамках да канца 2015 г. гаварыў нядаўна ў Сейме новы міністр замежных спраў Гжэгаж Схетына, былы старшыня парламенцкай камісіі па замежных справах, былы старшыня парламенцкага клуба ГП, экс-міністр унутраных спраў і адміністрацыі, былы маршалак Сейма. Амаль у самым пачатку свайго выступлення ён сказаў: «Самай нашай вялікай крыніцай трывогі і заклапочанасці з'яўляецца сітуацыя ва Усходняй Еўропе».

Шмат месца, вядома, прысвяціў пытанням Украіны, расійска-украінскага канфлікту і ролі Польшчы ў гэтай сітуацыі: «У інтарэсе Польшчы з'яўляецца трансфармацыя нашага суседа ў стабільную сучасную дзяржаву, заснаваную на вяршэнстве закона, прысутнай у еўрапейскім супрацоўніцтве. Наша пазіцыя ў справе абсалютнай павагі суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны застаецца сталай і моцнай.

Польшча аказвае адчувальную падтрымку рэформам ва Украіне. Гэтая краіна з'яўляецца адным з прыярытэтных напрамкаў польскай прагрэсіўнай і гуманітарнай дапамогі (...). Мы падтрымліваем і прасоўваем рэформу мясцовага самакіравання, суфінансуем свабодныя СМІ, навучаем прадстаўнікоў украінскай адміністрацыі, дапамагаем у рэфармаванні ўкраінскай ваеннай адукацыі. Неўзабаве пасля Майдана амаль 140 украінцаў лячыліся ў Польшчы. Прафінансавалі мы летні лагер разам з псіхалагічнай падтрымкай для соцень дзяцей з раёнаў баявых дзеянняў (...). У наступным годзе не толькі не намерваемся скарачаць сродкі на дапамогу Украіне, але актыўна шукаем спосабаў іх павелічэння.

У кантэксце не толькі ўкраінскім, мусілі прагучаць словы пра самую Расію: «З трывогай назіраем дыстанцыяванне Расіі ад Еўропы. Прыліў ізаляцыянізму і антызаходніх настрояў ды адмаўленне еўрапейскіх каштоўнасцей утвараюць мур, які аддзяляе гэтую краіну ад Еўропы. Крытычная ацэнка расійскай палітыкі не мяняе таго факту, што мы застаемся суседзямі ды эканамічнымі партнёрамі. Лічым, што польска-расійскія адносіны могуць быць добрымі. У сваіх адносінах з РФ будзем імкнуцца падтрымліваць супрацоўніцтва там, дзе гэта магчыма. Польская дыпламатыя будзе падтрымліваць каналы сувязей з Расіяй. У той жа час наша дзейнасць будзе ўплываць на больш шырокую стратэгію Еўрапейскага Саюза. Дзейнічаючы сумесна з іншымі 27 дзяржавамі-членамі, мы можам дасягнуць сапраўды больш».

Вядома, я асабліва чакаў заявы новага міністра наконт польскай палітыкі ў адносінах да Беларусі (аб некаторых больш ранніх поглядах Гжэгажа Схетыны ў дачыненні да сітуацыі ў Беларусі я пісаў адразу пасля яго назначэння на пасаду кіраўніка МЗС). У выпадку гэтага матыву ён сказаў: «Крызіс ва Украіне з'яўляецца адной з асноўных праблем таксама для Беларусі. Мінск спрабуе выступаць у якасці сумленнага пасрэдніка, што ацэньваем пазітыўна. Мы нашу палітыку ставім у залежнасць ад тэмпаў вырашэння двухбаковых праблем, такіх як паляпшэнне становішча польскай меншасці ў Беларусі, адкрыццё візавых цэнтраў, памежнае супрацоўніцтва, абнаўленне прававой і дагаворнай базы. Нядаўна падпісалі мы доўгачаканае адукацыйнае пагадненне з Казахстанам. Спадзяемся на хуткае падпісанне аналагічнага пагаднення з Рэспублікай Беларусь. Мы не абыякавыя да лёсу апошніх палітычных зняволеных у краіне».

У час клубных выступленняў да беларускага матыву звярнуўся дзеючы старшыня парламенцкай камісіі па замежных справах і кіраўнік ГП на Падляшшы Роберт Тышкевіч: «Я думаю, што мы павінны мець у дачыненні да гэтай краіны ўсе праграмы падтрымкі грамадзянскай супольнасці, дэмакратычных перамен, і ў новай сітуацыі на Усходзе шукаць магчымасці для актывізацыі трансгранічнага супрацоўніцтва. На мой погляд, гэты шанц сёння выразна адкрываецца». У сваю чаргу Станіслаў Жаліхоўскі з Польскай сялянскай партыі адзначыў: «Што тычыцца ўсходняй палітыкі, варта больш рацыянальна скласці нашы эканамічныя адносіны таксама з Беларуссю».

На «цікавую» з'яву звярнуў увагу Адам Ліпінскі з ПіС: «У мяне ёсць адчуванне, што ў апошні раз трохі змяніліся акцэнты ва ўсходняй палітыцы. Сустрэча прайшла нават на ўзроўні віцэ-міністраў паміж польскім і беларускім бакамі. Таксама частка консульскіх службаў удзельнічае ў мерапрыемствах, арганізаваных рэжымным Саюзам палякаў у Беларусі. З аднаго боку, гэта выклікае рознага тыпу сумненні, вядома, з другога боку растуць рэпрэсіі супраць актывістаў Саюза палякаў у Беларусі, іх затрымліваюць на мяжы, капіруюць дакументы Саюза палякаў. Нядаўна меў прайсці законапраект аб адукацыі, які, па сутнасці выціскае на абочыну польскую мову ў польскім школьніцтве ў Беларусі — ёсць дзве польскія школы ў Беларусі. У гэтай сітуацыі, я чакаў бы, спадар міністр, адназначнай дэкларацыі: так, польскі ўрад падтрымлівае Саюз палякаў у Беларусі на чале з Анжалікай Борыс і з панам Яськевічам».

Міністр Схетына запэўніваў: «Няма ніякіх змен з пункту гледжання нашых адносін, нашага стаўлення да палякаў у Беларусі. Мы заўсёды будзем прызнаваць Саюз палякаў у Беларусі з кіраўнікамі Анжалікай Борыс і панам Яськевічам. Тут нічога не зменіцца».

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

Хор песні і танца «Васілёчкі» адсвяткаваў у Бельскім доме культуры 50-годдзе дзейнасці. На святкаванне 8 лістапада прыбылі дырыжоры, якія працавалі з хорам раней, і спевакі, якія выступалі ў «Васілёчках» у мінулым. Саставілі яны адну вялікую сям'ю хору песні і танца «Васілёчкі», якую з юбілеем павіншавалі запрошаныя госці і бяльшчане. Прыбылі яны перш за ўсё паглядзець юбілейны канцэрт хору, які ўжо паўстагоддзя прапагандуе беларускія песні і танцы. Публіку ў вялікай ступені бельскія харысты захапілі танцамі, якія суправаджалі спеў. А гучаў ён, між іншым, пад акампанемент беларускага аркестра «Ліра» з Гродна, якім кіруе музычны кіраўнік «Васілёчкаў» Мікола Фадзін.




# «Васілёчкі» адсвяткавалі паўвекавы юбілей

Беларускае мерапрыемства распачалося з выступу «Васілёчкаў». Праспявалі яны свой гімн — «Расцвіталі ў жыцце васілёчкі», ад якога бельскі хор узяў сваю назву. Шматлікіх гасцей вітала дырэктар Бельскага дома культуры Малгажата Біль-Ярузельская. На юбілейнае святкаванне прыбыў падляшскі ваявода Мацей Жыўна, які ад імя прэзідэнта РП Браніслава Камароўскага ўручыў харыстам дзяржаўныя ўзнагароды. Юбілейную ўрачыстасць удастоілі пасол Сейма РП Яўген Чыквін, бельскі стараста Славамір Снарскі і яго намеснік Пётр Божка, выконваючы абавязкі бургамістра Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі, войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк, войт Бельскай гміны Раіса Раецкая, дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы Эдуард Швайко, старшыня БГКТ Ян Сычэўскі, старшыня Звязу ў карысць адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты» Ігар Лукашук, прадстаўнікі астатніх беларускіх арганізацый і музычных калектываў, працаўнікі культурных устаноў. Госці павіншавалі харыстаў з юбілеем, падарылі кветкі, сувеніры і выказалі многа цёплых слоў у адрас хору «Васілёчкі» — яго спевакоў і танцораў.

— «Васілёчкі» служаць справе беларускай культуры, захаванню беларускай спадчыны. Хор прывівае любоў да беларускай песні і беларускай мовы, зараджае раданай энергіяй. «Васілёчкі» — візітная картачка Бельска-Падляшскага, яго амбасадар, які спевам і танцамі расслаўляе горад у краіне і свеце, — такія сцвярджэнні прагучалі ў выступленнях шматлікіх гасцей.

Падляшскі ваявода Мацей Жыўна і выконваючы абавязкі бургамістра Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі ўручылі адзнакі харыстам. Залаты крыж заслугі атрымалі арганізацыйны кіраўнік хору Ніна Бялецкая і Галена Саковіч, Сярэбраны — Уладзімір Весялоўскі, а Бронзавы — Мікола Іванчук і Надзея Федаровіч. Адзнакі міністра культуры і нацыянальнай спадчыны РП «Заслужаны для польскай культуры» атрымалі Марыя Краўчук, Надзея Нівінская, Анна Клімчук, Васіль Іванюк і Славамір Саковіч.

Штогадовыя ўзнагароды бургамістра Бельска-Падляшскага за дзейнасць у карысць культуры атрымалі: персанальную — Ніна Бялецкая, а калектыўную — хор «Васілёчкі». Кіраўнік хору Ніна Бялецкая ўдакладніла, што ганаровыя граматы міністра культуры Рэспублікі Беларусь атрымалі музычныя кіраўнікі «Васілёчкаў» Сяргей Лукашук, Мікола Фадзін і харысты Галена Саковіч, Ірэна Астапчук, Уладзімір Весялоўскі і яна сама, а ганаровыя граматы Культурнага цэнтра РБ у Польшчы атрымалі музычны кіраўнік «Васілёчкаў» Мікола Фадзін і яго жонка, харэограф хору Людміла Фадзіна. Граматы ўручыў дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы Эдуард Швайко.

— Мы падрыхтавалі новы рэпертуар. Прыблізна палова твораў, якія мы сёння выконваем, гэта апрацаваныя народныя песні, астатнія — аўтарскія беларускія творы. Будзем спяваць песні аўтарства гродзенскага кампазітара Яўгена Петрашэвіча і іншых кампазітараў, — сказаў у пачатку мерапрыемства музычны кіраўнік хору «Васілёчкі» Мікола Фадзін.


■ Залаты крыж заслугі атрымалі (стаяць злева) Галена Саковіч і Ніна Бялецкая, Бронзавы – Мікола Іванчук і Надзея Федаровіч, а Сярэбраны – Уладзімір Весялоўскі

Бельскія харысты спявалі таксама на польскай, расійскай і ўкраінскай мовах, выканалі і яўрэйскую песню.

— Я ў захапленні ад выступу хору «Васілёчкі». Асабліва падабаліся мне беларускія народныя песні, якія бельскія харысты спявалі цудоўна, — заявіў Віталь Соха з «Арлян».

Юбілейную ўрачыстасць удала вяла настаўніца Гродзенскага каледжа мастацтваў Ніна Домань, якая супольна з Міколам Фадзіным саставіла сцэнарый і была рэжысёрам бельскага мерапрыемства.

— Хор песні і танца «Васілёчкі» выступае на высокім выканаўчым узроўні. Трэба памятаць, што ў ім выступаюць спевакі-аматары, без музычнай адукацыі. Музычны кіраўнік Мікола Фадзін мусіў выканаць вялікую працу, каб давесці хор да так высокага ўзроўню спеву. Танцы робяць выступы «Васілёчкаў» яшчэ больш займальнымі. Сённяшняй неспадзеўкай маюць быць выступы хору на яўрэйска-расійскім дыялекце, — сказала Ніна Домань.

Цікавым быў таксама выступ мужчынскай групы «Васілёчкаў» з тэатралізаваным творам «Лайдакі», калі мужчыны пераапрануліся за сялян. Акампанемент для выступу «Васілёчкаў» у БДК вельмі ўдала саставіў аркестр «Ліра» Заслужанага калектыву Беларусі «Гродзенскія карункі», які дзейнічае пры Гродзенскім каледжы мастацтваў.

— Сёння цудоўная атмасфера ў зале. Мы рады, што публіка так добра ўспрымае нашы выступленні, — гаварылі бельскія харысты ў час перапынкаў.

Каб дастойна запрэзентавацца перад гасцямі і публікай «Васілёчкі» інтэнсіўна рэпеціраваліся. У апошні час спатыкаліся па некалькі разоў у тыдзень, паўтаралі развучаныя раней новыя песні. Паміж выступленнямі бельскага хору прэзентаваліся калектывы «Ас» і «Арляне». Тады можна было пагаварыць з харыстамі «Васілёчкаў».

— Атмасфера ў нашым хоры добрая. Я стараюся аддаць усю энергію справе спявання па-беларуску. Наш дырыжор Мікола Фадзін — чалавек з вышэйшай музычнай адукацыяй і вялікай культурай, старацца нас многаму навучыць, — сказала Ірэна Астапчук (яна, Анна Клімчук і Васіль Іванюк — найстарэйшыя харысты).

— Мне родныя беларуская песня, беларуская культура і таму выступаю ў «Васілёчках». Падабаюцца мне таксама нашыя танцы, якія мы выконваем у харэаграфічнай апрацоўцы Людмілы Фадзіны, — сказала Вяслава Лаўрыновіч.

Яе сястра, узнагароджаная Залатым крыжам заслугі Галена Саковіч, звярнула ўвагу на традыцыю сямейнага спявання ў «Васілёчках».

— Першым выступаў у «Васілёчках» наш бацька, Уладзімір Талвінскі. Мы з сястрой, Вяславай Лаўрыновіч, спяваем, нашыя мужы таксама выступаюць. Я выхоўвалася ў польскамоўнай вёсцы, але зараз я ганаруся тым, што я беларуска, што мы жывем беларускай песняй і беларускай культурай, — сказала Галена Саковіч.

— Мы, бяльшчане, вельмі станоўча ацэньваем дзейнасць «Васілёчкаў». Побач апрацаваных народных твораў спевакі выконваюць таксама неапрацаваны фальклор. Увагі заслугоўваюць акцёрскія здольнасці харыстаў — «Васілёчкі» вельмі ўдала выступаюць з інсцэніроўкамі народных абрадаў, — сказала Альжбета Фіёнік, спецыяліст па тэатральнай дзейнасці ў БДК.

— Мы вельмі рады, што на юбілейнае святкаванне атрымалі многа крыжоў заслугі і адзнак, чаго раней ніколі не было. Вельмі прыемна таксама слухаць, як людзі шчыра віншуюць нас з юбілеем, хваляць нашае святочнае выступленне, сцэнарый і арганізацыю святкавання, — сказала арганізацыйны кіраўнік хору Ніна Бялецкая і павіншавала ўзнагароджаных харыстаў ды падзякавала спонсарам святкавання. — Грашовыя ўзнагароды і фінансавую дапамогу далі нам Культурны цэнтр Беларусі ў Польшчы, Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства, бургамістр Бельска-Падляшскага, Бельскае стараства, войт Бельскай гміны, Галоўнае праўленне БГКТ, а індывідуальна — нашая былая харыстка Валянціна Ласкевіч.

Харысты выступілі ў двух уборах, але маюць намер пашыць новыя касцюмы.

У калідоры БДК была арганізавана выстава здымкаў і хронік хору. Сабраныя маглі таксама пазнаёміцца з юбілейным буклетам, выдадзеным Аб'яднаннем сімпатыкаў Хору песні і танца «Васілёчкі», якое дапамагло Бельскаму дому культуры арганізаваць святкаванне.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Беларус Яраслаў Бароўскі абраны бургамістрам Бельска


racyja.com

Паводле яшчэ неафіцыйных вынікаў выбараў, у Бельску-Падляшскім перамагае Бельская кааліцыя. Як паведаміў Пятро Божка, кандыдат на бургамістра ад Бельскай кааліцыі **Яраслаў Бароўскі** выйграе ў першым туры ўпершыню ад 2002 года.

— Перамогу выбарах наш кандыдат Яраслаў Бароўскі. Ён атрымаў 5200 галасоў. На другім месцы — кандыдат ад нашага Падляшша Рамуальд Марганьскі, які атрымаў амаль 2100 галасоў. У выбарах у Гарадскую раду таксама перамагла Бельская кааліцыя. У Гарадской радзе ёсць 21 дэпутат, з іх 9 — ад нашай Бельскай кааліцыі, 2 — „Права і справядлівасць", 1 — самаўрадавая кааліцыя „Еднасць", 3 — „Наша Падляшша", 3 — Левыя дэмакраты, 3 — Выбарчы камітэт „Выбаршчыкі для Бельска".

— Гэта вялікі давер, і буду рабіць усё, каб яго апраўдаць. Тым больш, што ўпершыню з 2002 года ў Бельску-Падляшскім выбралі бургамістра горада ў першым туры, — гаворыць **Яраслаў Бароўскі**:

— Нечаканая сітуацыя, бо ў гэтым годзе атрымалася так, што мне аддалі 5161 голас, а астатнім — 5132. Гэта значыць, што маю больш 50%. Першае, што сёння зрабіў, — падпісаў 3 рашэнні і вызначыў 2 цаны продажу участкаў. Скажу, што вельмі вялікі давер да мяне, і я не магу яго згубіць. Хачу, каб ніхто не пашкадаваў, што 4 гады бургамістрам горада быў Яраслаў Бароўскі.

**Беларускае Радыё Рацыя**

**(ад рэд.)**

Вядома таксама, што выбары на войта гміны Орля выйграў **Пятро Сэльвэсюк.** У гміне Чыжы таксама застаецца на чарговы тэрмін **Юры Васілюк**. Гмінай Нараўка будзе далей кіраваць **Мікола Павільч**, гмінай Кляшчэлі **Аляксандр Сяліцкі**. У гміне Чаромха і Нарва другі тур выбараў 30 лістапада. Больш падрабязна пра вынікі самаўрадавых выбараў у наступным нумары „Нівы".

# Новыя прадметы для пажарнікаў

У рамках дамовы паміж Праўленнем Падляшскага ваяводства і Кляшчэлеўскай гмінай была атрымана датацыя велічынёю ў пяць тысяч злотых на закупку аснашчэння для пажарнікаў. У рамках дамовы пажарныя каманды атрымалі наступныя прадметы: ОСП Палічна — тры пажарныя каскі, ОСП Дашы — шарыкавы размеркавальнік і брандспойт «турба», ОСП Дабрывада — чатыры пары незгаральных рукавіц і чатыры камінярскі, ОСП Сакі — чатыры пары незгаральных рукавіц і пяць камінярак. **(ус)**


У Юшкавым Грудзе дарога пойдзе паводле новай трасіроўкі

# Новы ландшафт

Сёлета пачалася перабудова чарговага адрэзка ваяводскай дарогі № 686, дарогі, што вядзе ад Вілаў цераз Жэдню, Міхалова і Юшкаў Груд у Ялоўку. Перабудоўваецца амаль адзінаццацікіламетровы адрэзак з Міхалова ў Юшкаў Груд. Работы пачаліся ў чэрвені, а іх завяршэнне прадбачана на канец ліпеня будучага года.

Хто не рулiў па гэтай дарозе, асабліва ж на адрэзку між Міхаловам і Новай Воляй, той можа не поўнасцю ўяўляе, як важная гэта інвестыцыя. Асфальтавае палатно працярпела там шматгадовыя здзекі розных машын і ўжо ледзь дыхала. Ехаць па ім яшчэ сяк-так можна было, калі не трэба было мінацца, трымаючыся сярэдзіны дарогі. Калі ж трэба было неяк знайсці ў шырыні тае дарогі месца для дзвюх машын, тады сэрца шафёра пачынала біць мацней, павышаўся ціск крыві... Паколькі шафёрамі ў нас усё яшчэ найчасцей мужчыны, дык гэта менавіта да іх чапляюцца на такіх дарогах усе суправаджаючыя цывілізацыйныя вынаходствы хваробы нашай новай эпохі: усялякія сардэчныя, нервовыя ды іншыя. Не дзіва тады, што менавіта вадзіцельскі мужчынскі пол не дажывае тых гадоў, якіх дажываюць прыгожаполыя пасажыркі. Таму рамонт дарогі паміж Міхаловам і Юшкавым Грудом разглядаю як элемент канстытуцыйнага ўраўнаважвання правоў жанчын і мужчын.

Дарога паміж Міхаловам і Юшкавым Грудом атрымае не толькі новы, пашыраны да прыстойнай шырыні насціл ці новыя масткі і пратокі, атрымае яна таксама новы, узмоцнены подсціл, атрымае таксама новы кшталт. Менавіта абміне яна Новую Волю ды ў Юшкавым Грудзе яна прамалінейна пяройдзе ў ваяводскую дарогу № 687, што ў напрамку Бандароў, Нараўкі і Навасад з адгалінаваннем у Тарнопалі да чыгуначнага таварнага пагранперахода ў Семяноўцы. Гэта элемент агульнейшай транспартнай інфраструктуры, якая мае спалучыць Семяноўку з агульнапольскай глыбінкай. Вось у Юшкавым Грудзе той пачатак дарогі № 687 абміне тамашнюю царкву з захаду, так як гэта паказваецца на агульнейшых тапаграфічных картах, быццам працягваючы прамалінейна дарогу № 686, быццам падказваючы шафёрам, што галоўная мэта новай тамашняй транспартнай развязкі не ў Ялоўцы, але ў Семяноўцы. І яшчэ адна „юшкаўская" заўвага: тамашняя царква абстаўлена рыштаваннямі, быццам мясцовы краявід мае атрымаць комплекснае, аднpraчаснае, больш шырокае абнаўленне...

Крыху інакш справа маецца ў выпадку Новай Волі. Там дасюлешні зігзаг дарогі № 686 праходзіў цераз вёску, да скрыжавання дарог між царквою і былою школай. Цяпер жа той зігзаг будзе перамешчаны за вёску, абмінаючы яе з поўначы і гладкім паваротам кіруючыся ў бок Міхалова. З новай дарожнай паласы на ўсёй яе шырыні знімаецца ўвесь пераглойны слой, які пазней будуць мацаваны абочыны ўсёй дарогі.

У Юшкавым Грудзе новая трасіроўка дарогі непрацяглая і пралягла цераз зямельны ўчастак, побач якога маладыя аблясенні, а па гэтым трэба меркаваць, што грунт, па якім яна там пракладваецца, таксама на мяжы аблясення — значыць мала перспектыўны з земляробчага пункту гледжання. У Новай Волі інакш — новая дарога пайшла цераз рупліва абрабляныя палі. І хаця з таго боку вёскі ёсць загуменная дарога, то, аднак, новае дарожнае палатно будзе аддалена ад той гаспадарскай дарогі на нейкіх дзесяць метраў. У вёсцы спытаў я селяніна, які акурат выйшаў на вуліцу, пра яго стаўленне да навінкі. Стаўленне аказалася адмоўным, бо дарога перасякла ягоныя грунты, грашовай выручкай ён таксама незадаволены. Мала таго — у вёсцы было аб'яўлена, што хто патрабуе навезці сабе зямлю, таму прывязуць яе бясплатна, а калі ж мой субяседнік падаў заяўку, каб яму прывезлі засыпаць нейкую яму, тады яму адказалі, што ён павінен заплаціць, бо яму за зямлю плаціллі. Да таго ж не будзе з новай дарогі з'ездаў на кожны палетак і трэба будзе карыстацца аб'ездамі.


Каля Лесанкі



У цэнтры Міхалова кіпіць работа

У пачатку лістапада работы на дарозе вяліся на поўную катушку. Некаторыя адрэзкі ўжо атрымалі новае палатно, іншыя акурат залiваліся новым асфальтам, яшчэ на іншых, у тым ліку каля тарфянішча Імшар, вялося грунтаванне новага, узмоцненага подсцілу ў калядрыгвяністай зямельцы. За год, трэба спадзявацца, шафёрам, адпраўляючымся па новай дарозе будзе не толькі выгадней, але і — здаравей.

У цэнтры Міхалова таксама ў той час кіпела работа — пад Свята Незалежнасці інтэнсіўнымі тэмпамі парадкаваўся гарадскі парк; гэта быццам таксама элемент комплекснага абнаўлення тамашняга ландшафту, яго ўзбагачэння. Тут таксама неардынарны інфармацыйны сюрпрыз: на задворках тамашняга дома культуры рэцэпты розных апетытных напояў ды закусак да іх. Варта было б яшчэ дапрапанаваць і іншае інфармацыйнае ўзбагачэнне Міхалова... Калі я зайшоў на тамашні аўтобусны прыпынак, апынуўся быццам на інфармацыйнай паўпустыні. Быў там расклад аўтобусаў толькі аднаго суб'екта публічнага транспарту, прыватнага „Ваяжора". Калі ж адтуль адпраўляюцца аўтобусы Пэкаэсу, удалося мне даведацца толькі дзякуючы добрай волі добрых тамашніх людзей. Але не заўсёды ўдаецца патрапіць на такое супадзенне добрай волі, бо ж і нейкая злая воля апустошыла тамашні аўтобусны прыпынак з раскладаў, а нейкая іншая бязвольнасць ці бяздзейнасць не парупілася аб выпраўленні шкоды.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Аднамоўнасць паддаецца лячэнню

**У свеце людзі выкарыстоўваюць каля сямі тысяч моў, палова з якіх, верагодна, знікне да 2050 года — прадбачвае этналінгвіст Тамаш Віхаркевіч, заснавальнік і старшыня Саюза рэгіянальных і меншасных моў у Польшчы, кіраўнік Майстэрні моўнай палітыкі і даследаванняў у галіне меншасцей Універсітэта Адама Міцкевіча ў Познані, незалежны эксперт Сумеснай камісіі польскага ўрада і нацыянальных ды этнічных меншасцей. Сустрэча з ім адбылася 14 лістапада ў беластоцкім Склепе з культурай, у рамках дыскусійнага клуба Згуртавання АБ-БА. Сярод фактараў, якія вызначаюць выміранне асобных моў, згадаў ён: адсутнасць афіцыйнай падтрымкі і ўпэўненасці носьбітаў мовы да яе ўжывання і — самае важнае — факт, што бацькі лічаць, што выкарыстанне іхнімі дзецьмі так званай слабейшай мовы пазбаўляе іх доступу да выгод «лепшага свету», у тым ліку магчымасці зрабіць кар'еру.**



Злева: Мікола Ваўранюк і Тамаш Віхаркевіч

Тамаш Віхаркевіч штодзённа мае справу з даследаваннямі моўных меншасцей у Еўропе, Азіі і Польшчы, у тым ліку з моўнай палітыкай у гэтых краінах ды сацыялінгвістыкай і этналінгвістыкай моў, якія апынуліся пад пагрозай. Рыхтуе ён экспертызы па прававых дакументах (у тым ліку еўрапейскіх) для моўных меншасцей. Прымае меры па аднаўленні і захаванні шматмоўя і шматнацыянальнасці ў дачыненні да знікаючых моў. Шмат месца падчас сустрэчы прысвяціў мовам, якім пагражае знікненне. Мова — як вызначана навукоўцамі і міжнароднымі арганізацыямі — лічыцца «бяспечнай», калі існуе высокая верагоднасць таго, што дзеці грамадскасці, якая размаўляе на ёй, будуць карыстацца ёю сто гадоў, у «групе рызыкі» — калі верагоднасць гэтага малая, і «паміраючай», калі маладое пакаленне носьбітаў мовы ў цяперашні час не выкарыстоўвае яе. ЮНЕСКА стварыла пяціступенчатую шкалу, якая выкарыстоўваецца для ацэнкі ступені рызыкі, прымаючы пад увагу, перш за ўсё, працэс перадачы мовы наступнаму пакаленню. Іншыя фактары ўключаюць у сябе колькасць людзей размаўляючых на гэтай мове, сферу прымянення, звязаную з магчымасцю задавальнення патрабаванняў сучаснасці, афіцыйнае стаўленне носьбітаў да сваёй мовы і г.д. Да моў, якія патэнцыйна знаходзяцца пад пагрозай знікнення, паводле дадзеных ЮНЕСКА, належыць таксама беларуская мова. Тамаш Віхаркевіч, пачынаючы сустрэчу, адзначыў:

— Я зачараваны пытаннямі з памежжа заканадаўства і моваведства, часцей застаюся ў патоку, які займаецца мовамі пад пагрозай знікнення, і некаторыя ўжо гатовыя назваць гэта экалінгвістыкай. Усё больш і больш людзей, не толькі лінгвісты, ужо ведаюць, што моўнае багацце вакол нас памірае.

Ён спаслаўся на сцвярджэнне аднаго з даследчыкаў моў пад пагрозай знікнення:

— Мовазнаўства можа быць першай навукай, якая будзе сведкам прапажы большасці сваіх навукова-даследчых аб'ектаў. Мовы паміраюць хутчэй, чым віды ў прыродзе.

Спаслаўся на вызначэнне мовы аднаго з амерыканскіх піянераў сацыялінгвістычных даследаванняў, які паўжартам сказаў, што «мова з'яўляецца дыялектам, што мае армію і ваенны флот»:

— Калі адняць гэтыя флаты і арміі, аказваецца, што гэтых моў каля сямі тысяч. Ёсць рэгіёны свету, дзе не ўсе мовы палічаны, напрыклад, Папуа — Новая Гвінея. На жаль, гэтае багацце рэзка знікае.

Спаслаўся на дадзеныя:

— Каля сотні моў у свеце мае ўсталяваныя літаратурныя мовы, якім практычна нішто не пагражае. Прыкладна шаснаццаць адсоткаў моў добра дакументаваны, маюць слоўнік і досыць салідная граматычнае апісанне. Аб гэтых больш за васемдзесят адсоткаў мы ведаем вельмі мала. Калі з гэтых васьмідзесяці адсоткаў загіне пяцьдзясят, дык яны пamруць недакументаванымі. На шчасце, лінгвісты пераносяць увесь цяжар іх даследаванняў на дакументаванне, стварэнне баз дадзеных, як для выміраючых відаў (...). Сярод гэтых сямі тысяч моў каля ста сямідзесяці сапраўды бяспечныя, калі справа ў колькасці носьбітаў. Еўропа багатая ў мовы, але гэта невялікі працэнт

**Этнабізнес перастае быць тым, чаго трэба саромецца. Кашубскія актывісты імкнуцца да таго, каб усе кашубы былі двухмоўнымі. Яны хочуць мець двухмоўныя дарожныя знакі з назвамі мясцовасцей усюды, і ў гэтым можа дапамагчы навелізацыя законапраекта, змяншаючая адсотак насельніцтва размаўляючага на мове меншасці з 20% да 10% у гміне...**

у гэтых адносінах сярод іншых кантынентаў свету.

Успамінаючы аб знікаючых мовах, прывёў шматлікія прыклады, у тым ліку мову айнаў, якую вывучаў Браніслаў Пілсудскі на востраве Сахалін:

— Здавалася, што мае мала носьбітаў, але ёсць такая вялікая мода ў Японіі на яе аднаўленне, што зноў яе вывучае некалькі тысяч чалавек.

Успомніў таксама, напрыклад, пра лівонскую ў Латвіі, якая лічыцца ЮНЕСКА вымерлай. Да нядаўняга часу было яго дзевяць натуральных носьбітаў, але ў ліпені памерла яе апошняя карыстальніца. Тым не менш, яна ўведзена ў латвійскую канстытуцыю ў якасці моўнай нацыянальнай спадчыны, выкладаецца ў школах і ў Рыжскім універсітэце.

З іншага боку, насуперак распаўсюджанаму меркаванню, яўрэйская мова — іўрыт — у сапраўднасці ніколі не была мёртвай мовай:

— На іўрыце не вяліся размовы на бытавыя тэмы, але гэта была мова тысячагоддзямі перадаваная з пакалення ў пакаленне.

Пералічваў іншыя прыклады:

— Ёсць мовы, якія існавалі на працягу многіх стагоддзяў у маленькіх групах. Даследаванай Браніславам Пілсудскім ароцкай мовай (Паўночны Кітай — М. Х.) ніколі не валодала больш за шэсць чалавек, размаўляла на ёй адна вёска.

Аналагічная сітуацыя адбылася ў Дагестане на Каўказе, дзе ў паасобных вёсках іх мясцовая мова выжыла таму, што яе перадавалі з пакалення ў пакаленне:

— Да таго часу, калі мова выкарыстоўваецца ва ўсіх сферах жыцця грамадства, яна бяспечная. Так што малалікасць носьбітаў не абазначае небяспекі для малой мовы.

У Польшчы сярод паміраючых моў назваў, у прыватнасці, караімскую, якою кожны дзень да нядаўняга часу карысталіся тры чалавекі і вілямовіцкую (Вілямовіцы ў Бяльска-Бельскім павеце Сілезскага ваяводства), на якой гаварылі нядаўна шэсцьдзесят-семдзесят чалавек, і да сёння — трыццаць:

— Ёсць сямнаццаць маладых чалавек, якія вывучаюць яе. Гэта ўдалая спроба ажывіць мову. У 1992 годзе ў адным з артыкулаў я напісаў, што на працягу наступнага дзесяцігоддзя мова ў Вілямовіцах будзе страчана. Тады прачытаў яго некалькігадовы Тымак Круль і сказаў, што не дапусціць да гэтага. Так яно і сталася.

Падкрэсліў:

— Тое, што мова памірае, у першую чаргу значыць, што ўжо не адказвае патрэбнасцям размаўляючага на ёй грамадства або паміраюць яе апошнія носьбіты, натуральна або ў выніку, напрыклад, генацыду або цунамі, як гэта было на беразе Індыйскага акіяна з адной з андаманскіх моў. У цэлым, аднак, гэта адбываецца ў выніку спынення перадачы паміж пакаленнямі, калі робіцца дзіра ў перадачы мовы паміж пакаленнямі, і больш прэстыжная мова замяняе менш прэстыжную.

Дадаў:

— Калісь свет на самой справе быў шматмоўным. У канцы 20-х гадоў мінулага стагоддзя сярэдні жыхар Найробі, які ў цяперашні час з'яўляецца сталіцай Кеніі, гаварыў на сямі мовах.

Рэжысёр-дакументаліст і тэлежурналіст Мікалай Ваўранюк, вядучы сустрэчу, пры нагодзе ўспомніў гісторыю Сакрата Яновіча, які часта спасылаўся на гісторыю свайго дзеда, характэрную і для многіх жыхароў малых мястэчак Беласточчыны, не толькі для яго родных Крынак:

— Ён умеў толькі распісацца, але гаварыў на мове ідыш са сваімі суседзямі, пабеларуску дома, па-польску з ксяндзом, а за цара па-руску з чыноўнікамі, і ведаў яшчэ нямецкую, таму што ведаючы ідыш лёгка было яму яе навучыцца, а ў час Першай вайны быў дзесьці ў Прусіі ў палоне.

Тамаш Віхаркевіч:

— Сёння мы лічым, што шматмоўнасць гэта пасланне дзіцяці на курсы англійскай, нямецкай, французскай моў. У Еўропе выступае паўсюдная з'ява, якую сацыялінгвісты называюць паліглосіяй, ад гэтага ў нас ёсць слова паліглот, гэта значыць той, хто ведае некалькі замежных моў, але ўсе яны выкаранены. Не вучымся культур. Разам са знікаючымі мовамі паміраюць цікавыя сістэмы бачання свету, напрыклад, сістэмы злічэння, ці пісьма, як піктаграфічнае.

Пажартаваў:

— Аднамоўнасць паддаецца лячэнню.

Шмат месца прысвяціў аднаўленню моў, у тым ліку шляхам навучання дзядулямі дзяцей у спецыяльных святліцах, падтрымліваных дзяржавай, як, напрыклад, у Корнуале. Прывёў польскія прыклады:

— Курпі, не маючыя амбіцыі да мовы, але з верасня рашэннем улад Астралэнцкага павета, як крок да ўмацавання прэстыжу курпёўскай мовы ў мясцовых гмінах, школы могуць уводзіць навучанне курпёўскай гаворцы ў яе літаратурным стандарце. Рыхтуюцца да гэтага вармійцы і кацевякі. Усе пераканаеныя ў неабходнасці захавання дыялекту.

Настаўніца беларускай мовы, сяброўка Згуртавання АБ-БА Аліна Ваўранюк раздумвала, ці не трэба нам было б стварыць для дзяцей лемантара на падляшскай мове. Тамаш Віхаркевіч:

— У Краіне Басскаў, дзе выкарыстоўваецца сем асноўных дыялектаў, існуе тэндэнцыя, каб дзеці ўваходзілі ў сістэму моўнай адукацыі на працягу першых двух гадоў у кантакце з мясцовай разнавіднасцю мовы. Тады пачынаюць уводзіць абавязваючы стандарт баскійскай мовы, а іспанскую толькі пасля.

Падобна робяць брэтонцы ў Францыі — спачатку дзеці вучацца на адным з двух функцыянуючых дыялектаў.

Аліна Ваўранюк:

— Прачытаўшы некалькі гадоў таму ў «Ніве» артыкул Яна Максімюка пра падляшскую мову, я папрасіла дзяцей з шостага класа, каб напісалі некалькі радкоў пра сябе на падляшскай мове, на якой гавораць. Не змаглі. Навучаць на нашым дыялекце, але якім? Калі б я была настаўніцай у беларускай Орлі або Нараўцы, не было б праблемы. Але ў Беластоку? Калі ўжо штучнай, дык хутчэй літаратурнай беларускай мовы.

Тамаш Віхаркевіч:

— У Беластоку тым больш.

Аліна Ваўранюк:

— У Польшчы ёсць умовы для вывучання сваёй мовы, пра што сведчыць кашубскі лемантар, і менавіта дзякуючы ЕС. Але што рабіць, каб бацькам хацелася. У нас няма свядомасці, што гэта каштоўнае, мае сваю цану і будуе тоеснасць.

Тамаш Віхаркевіч:

— І інтэлектуальна развівае дзяцей.

Герой сустрэчы адзначыў:

— Спецыялісты па замежных мовах занядбоўваюць навучанне да пасіўнай шматмоўнасці. Вучым таксама пасіўнаму разуменню, хоць для гэтага няма ніякіх падручнікаў і методык.

Паказаў:

— Вельмі важна, каб мова была бачнай у асяроддзі (напрыклад, праз шматмоўныя дошкі з назвамі мясцовасцей — М. Х.).

Мікалай Ваўранюк:

— Гэта можа быць крыніцай даходаў для гмін. Рэгіён становіцца прывабным турыстычным цэнтрам.

Тамаш Віхаркевіч:

— Этнабізнес перастае быць тым, чаго трэба саромецца. Кашубскія актывісты імкнуцца да таго, каб усе кашубы былі двухмоўнымі. Яны хочуць мець двухмоўныя дарожныя знакі з назвамі мясцовасцей усюды, і ў гэтым можа дапамагчы навелізацыя законапраекта, змяншаючая адсотак насельніцтва размаўляючага на мове меншасці з 20% да 10% у гміне. І прытым атмасфера вакол кашубшчыны ў Польшчы вельмі станоўчая. Дваццаць гадоў таму не было методыкі навучання кашубскай мове. Ніколі нікога не вучылі кашубскай мове. Сёння гэтую мову вывучае 19 тысяч дзяцей.

Дзякуючы Тамашу Віхаркевічу ў інтэрнэце была створана (і да гэтага часу абнаўляецца) база дакументацыі, якая змяшчае матэрыялы аб знікаючых разнавіднасцях моў, якія з'яўляюцца спадчынай Рэчы Паспалітай, за выключэннем гаворак і дыялектаў самой польскай мовы (www.inne-jezyki.amu.edu.pl). Неўзабаве на сайце мае таксама з'явіцца інфармацыя аб беларускіх дыялектах.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Пад партрэтамі класікаў!

У гімназіі ўсё пачынаецца ад нова і быццам упершыню. Новы этап у жыцці школьніка. Першая справа: мы ўжо не дзеткі, мы — моладзь. А гэта не абы-які выклік.

— Думаю, што не будзе праблем са зразуменнем беларускай мовы, — адзначыла Ганна Каліноўская, настаўніца беларускай мовы ў гайнаўскай белгімназіі.

Заўвага тут была цалкам на месцы — частка гімназістаў упершыню пачала вывучаць беларускую мову. Тыя, што хадзілі на беларускую мову ў пачатковай школе, прымалі ўдзел у беларускіх конкурсах, чыталі „Зорку", адчувалі сябе больш упэўнена.

У час сустрэчы мы пазнаёміліся з дваццацігадовай гісторыяй дзяцей і моладзі, аб'яднанай вакол Сустрэч „Зоркі". Гайнаўскія гімназісты і ліцэісты заўсёды былі ў авангардзе, таму неабходны працяг добрай традыцыі. У час беларускіх майстар-класаў узнікла больш за тысячу журналісцкіх твораў: ньюсаў, фельетонаў, рэцэнзій, рэпартажаў, інтэрв'ю. Разам нараджаліся апавяданні, вершы, коміксы ці чароўныя малюнкі. Усё гэта можна пачытаць і паглядзець у нашым архіве **www.e-zorka.pl**


фота Ганны КАНДРАЦЮК

Не менш важныя тут сяброўствы дзяцей і іх апекуноў, якія доўжацца па сённяшні дзень.

Гайнаўскія першакласнікі таксама сваю вучобу ў белгімназіі пачалі з творчасці.

— Адной з задач было напісаць сачыненне пра восень, — адзначае настаўніца, — і тут былі каларытныя пробліскі. Думаем таксама ўжо пра конкурс „Пазнай Беларусь" і пра беларускую гавэнду. І, зразумела, пра прадметны конкурс па беларускай мове.

На канец сустрэчы мы сфатаграфаваліся пад партрэтам беларускіх класікаў: Янкі Купалы, Максіма Багдановіча і Якуба Коласа.

ЗОРКА

*Анна БЯЛЯЎСКАЯ,*
*Янова, школа ў Нараўцы*

## Хтосьці скажа

Хтосьці скажа:што я раблю?
Хтосьці скажа:што я хачу?
Хтосьці знае,дзе я жыву?
Хтосьці ведае,дзе я ваду п'ю?
Кожны скажа нешта пра мяне,
Толькі гаварыць не хоча.

*Оля КАНДРАТОВІЧ, Міхалова*

## Мой шэры кот

Мой шэры коцік
Любіць мяне туліць.
Мой шэры коцік
П'е малако цёплае.
Мой шэры коцік
Гуляе са мною.
Гэта сапраўдны свавольнік!

## Дзеці

Дзеці часта гавораць,
Дзеці ўвесь дзень бегаюць,
Дзеці весела смяюцца.
І дарослымі быць...
Пакуль што не хочуць!

# Хто ж быў першым беларускім касманаўтам?

Паспрачаліся неяк у школе Янка і Яўген.

„Першым беларускім касманаўтам быў Юрый Гагарын! У 1961 годзе ён першым з зямлян паляцеў у космас", — кажа Янка.

„Гагарын хоць і нарадзіўся на беларускай Смаленшчыне, але ж яна ўжо была ў Расіі ды і ён гаварыў выключна па-руску. Не, я першым беларусам-касманаўтам лічу Пятра Клімука з Берасцейшчыны, ён паляцеў у космас у 1973 годзе", — Яўген быў упэўнены, што мае рацыю.

Але раптам да іх спрэчкі далучылася Адэля: „Хлопцы, я чытала ў інтэрнэце, што ў 1963 годзе ў космас лётала Валянціна Церашкова. Яна хоць і нарадзілася ў Расіі, куды пераехалі з Беларусі яе бацькі, але гаварыла ў дзяцінстве выключна па-беларуску. І цяпер згадвае пра свае беларускія карані".

Тут не вытрымаў Віталь, які дагэтуль сядзеў моўчкі: „А я першым беларускім касманаўтам лічу мастака Язэпа Драздовіча. Мне тата падараваў альбом яго малюнкаў. Ён задоўга да Гагарына ўначы нейкім цудоўным чынам лётаў у космас ды яшчэ на іншыя планеты, запісваў пабачанае ў дзённік ды маляваў карціны".

Сябры Віталя засмяяліся. Але ён не пакрыўдзіўся, дастаў з сумкі вялікую кнігу і разгарнуў яе. Янка, Яўген і Адэля з захапленнем глядзелі на фантастычныя малюнкі пейзажаў Месяца, Сатурна, Марса. Зачараваныя Драздовічам, яны ўяўлялі, што таксама былі там, у далёкіх касмічных прасторах.

Сяргей ЁРШ


Уладзімір Мацюшонак, 15 гадоў. Свет Язэпа Драздовіча. Папера, гуаш

# ДЗІКАЯ КАЧКА

*(беларуская казка)*

Жылі-былі дзед ды баба. Пайшлі аднойчы яны ў лес па грыбы. Назбіралі шмат грыбоў і ўжо дамоў ідуць. Аж раптам, бачаць, гняздзечка ў кустах. А ўсярэдзіне дзікая качка з перабітым крылом. Прынеслі старыя яе дамоў, перавязалі крыльцо чыстым палатном, спялі новае гняздзечка і абкажылі мяккім пер'ечкам.

Праз некалькі дзён зноў адправіліся па грыбы. Доўга па лесе хадзілі, стаміліся, згаладаліся. Вярнуліся дамоў, — а там усё прыбрана, смачны абед у печцы. Дзікая качка сядзіць у гняздзечку, галоўкай на прывітанне ківае.

На другі дзень зноў адправіліся старыя ў лес, а калі вярнуліся ўсё паўтарылася: хата прыбраная, абед гатовы. На стале духмяныя пірагі стаяць.

Сталі старэчы пытаць у суседзяў ці не бачылі кагосьці ля іх хаты. А тыя кажуць:

— А як жа, бачылі адну прыгажуню. Яна несла ваду з крыніцы і крышку кульгала.

Рашылі дзед з бабкай высветліць хто гэта ім дапамагае. Яны на голас сказалі што ідуць у лес і што вернуцца аж пад вечар. Ды не пайшлі нікуды, а толькі схаваліся на панадворку за стогам сена. Сядзяць і чакаюць... Праз нейкі час дзверы ад хаты адчыніліся. З сярэдзіны выйшла дзяўчына, яна крышку кульгала. Узяла вёдры і пайшла да крыніцы па свежую вадзіцу. У гэты момант старыя ўбеглі ў хату, бачаць — няма качкі ў гняздзечку. Узялі яны пер'е і спалілі ў печы.

Вярнулася дзяўчына, пабачыла што няма яе пер'я ды горка заплакала-загаласіла.

Сталі яе дзед з бабкай суцяшаць:

— Не плач, прыгажуня! Аставайся жыць з намі, як родную дачушку любіць будзем.

— Не магу астацца з вамі, — кажа ім дзікая качка. — У мяне ёсць маці і татка, сяброўкі і нарачоны. Ён мяне чакае ў далёкім краю. А я праламала нагу і не змагла адляцець з імі. Зараз мне трэба чым хутчэй далучыцца да чарады.

Засумавалі дзед з бабай. Не хацелі яны развітвацца з дзяўчынай...

Але там, дзе дабрыня і любоў, там заўсёды ёсць нейкі выхад.

Аднойчы, калі дзяўчына сядзела ля хаты, побач яе праляцелі дзікія качкі. Яны скінулі па пер'ечку і далей паляцелі. Пасля нейкага часу — ляціць другая чарада. Яны таксама скінулі па пер'ечку і паляцелі. І трэці раз такое паўтарылася. Зараз у дзяўчыны назбіралася многа пер'я. Яна прыклала яго да цела і абярнулася ў дзікую качку. Дзяўчына-качка падзякавала дзеду і бабцы за дабрыню і адляцела далёка-далёка, каб там далучыцца да сваёй роднай чарады.

**(апрацоўка Ганны КАНДРАЦЮК)**

## Загадкі з роднай хаткі

## Увага, конкурс!!! (№ 47-14)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 7 снежня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

**На гародзе гаспадыня.**
**Рох! Рох!**
**Вох! Вох!**
**Гэта боб ці гарох?**
**Тут кавун ці дыня?**
**Нюх-нюх**
**пятачок.**
**Рох-рох!**
**Бурачок?!**
**Смачнае бацьвінне,**
**любяць яго**
**с.....**

**Н. А. Сторажава**

**2.**

**З вусамі,**
**а не стары.**
**Зайздросныя вочы.**
**За што-небудзь на двары**
**Учапіцца хоча.**
**Хопіць хітрасці на трох.**
**Ну на тое ж ён**
**г....**

**Рыгор Барадулін**

**Адказ на загадкі № 44-14: капуста, вяргіня, дождж. Узнагароды, кампакт-дыскі з беларускай музыкай, выйгралі Уля Марчук з Нараўкі, Юліта Варановіч з Бабік. Віншуем!**

*Карнэлія БАРЭЧКА,*
*Тарнопаль, школа ў Нараўцы*

## *Коцікі*

*Коцікі белыя як снег*
*Усё бегаюць і скачуць*
*То туды, то сюды,*
*Мяўкаюць, але не плачуць.*
*Коцікі малыя,*
*Белыя як пух,*
*Адзін ужо вясёлы, а ўдвух...*
*А як сям'я прыйдзе,*
*То ўсе цешацца, гуляюць,*
*Аб божым свеце*
*тады забываюць.*

# Вершы Віктара Шведа

## Аддам з пенсіі бабулі

Просіць унук-малалетка:
— Пазыч пяць злотаў, дзедка.
Аддам абавязкова
З пенсіі я новай.

— А пенсія якая,
Ты ж яе не маеш?
— Аддам табе, дзядуля,
Я з пенсіі бабулі.

## Кім працуеш тата?

Было пытанне Ігната:
— Кім ты працуеш, тата?
— Я зваршчыкам, сынок,
Працую ўжо гадок.

— А што ты варыш, татка?
— Жалеза, дзіцятка.
— І смачнае яно? —
Пытаецца сын зноў.

## Дзядуля слаба чуе

— З кім, унучка пытае,
Наш дзедка размаўляе?
Адказала бабуля Зоя:
— Размаўляе сам з сабою.

— А чаму з крыкам гэткім
Размаўляе наш дзедка?
Бабуля ўнучцы тлумачыць:
— Дзядуля слаба чуе.

## Кпіны матулі

У бацькавай машыне
На заднім сядзенні
Чуе матулі кпіны
Малы сыночак Жэня.

Зацікавіла сына:
— А хто цябе, мама,
Вучыў весці машыну,
Калі не быў жанаты?

# Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 43:

Шкло, тур, звер, мо, Троя, парый, воўк, фін, ён, лён, варыянт. Арыён, шум, кроп, авіза, трон, зрыў, воўк, ля, фея, ён, ар, агент.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Дамініка Календа** з Бельска-Падляшскага, **Алек Чарнецкі** з Нараўкі, **Патрыцыя Чэмярыс**, **Ігар Кардаш** з Нарвы, **Оля Пугацэвіч** з Беластока, **Юля Жукевіч** з Бабікаў, **Эмілія Аніськевіч**, **Кінга Сахаркевіч** з Шудзялава, **Эля Касцюкевіч**, **Гося Бучак** з Міхалова. Віншуем!

№ 47

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Zabawa | | | | | Ar / Szkic | | | | | |
| | Zima | | Puszcza | | | Próg / Serce | | | Rebus / Gęśle | |
| | Baku / Ach! | Żelazko | | | | | Re / Bis | | | |
| | | | | Re / Czar | | | Tatarak | | Kłus | |
| | | Szcze-rość | | | | | | | | |
| | Szczęście | | | | | | | | | |
| | | As / Ar | | | Araks | | | | | |

# На Лукаша ў Плёсках

Поранак імглісты, сонейка схавалася цалкам за хмарамі — нічога дзіўнага, то ж 31 кастрычніка. Не кожная восень такая цёплая, як сёлета.

З'язджаю на ліфце ўніз, у сумцы забразгаталі шкляныя znічы. Выходжу на панадворак, перад блокам чакае ўжо дачка ў аўтамашыне. Па дарозе забіраем сястру Надзю. Едзем на могілкі, да бацькоў, дзядоў, прадзедкі, сёння ж святога Лукаша ў Плёсках, дзень прысвечаны ўсім, хто ўжо адышоў з нашага свету, чые свечкі жыццяўжо даўно або зусім нядаўна дагарэлі. Па дарозе на шашы ў Дайлідах купляем прыгожыя шматколерныя хрызантэмы...

Едзем у цішыні, кожная з нас сную свае думкі. За шыбкамі аўтамашыны аднастайнасць — чорнае поле, дрэвы, лес... Знікае недзе рэчаіснасць, у памяці мігаюць карціны мінулага, ды хутка прападаюць, як у цікавым фільме...

Заплюшчваю вочы і бачу, як з мужам едзем да бацькоў у госці, бо яшчэ не так даўно на Лукаша — госці, забавы, весялосць... нібыта даўно, а сапраўды так нядаўна, здаецца, учора, а мо пазаўчора... Бачу бацькоў і ўсю сям'ю за сталом, чую словы баценькі: „Ну, вып'ем, на здароўе, і каб на другі год дачакацца...".

Адкрываю вочы, каб перарваць балючы ўспамін, кірую словы да дачкі:

— Глядзі, не пераедзь дарогі ў вёску, бач, няма ўжо тых прыгожых дрэваў абапал плёскаўскай дарогі, можна не заўважыць...

Уязджаем у вёску, вакол цішыня, якраз выглянула сонейка, павесялела. Людзей на вуліцы не відна, усе хто можа — на могілках. Звяртаем у дарогу на могілкі. Пад лесам ля могілкавай агароджы — крамкі з надгробнымі лямпачкамі, з дзіцячымі цацкамі, а нават з маленькімі цукеркамі-ледзянцамі, качкамі, пеўнікамі, мачкамі... „А хто ж іх купляе?" — падумала я. — Вясковых дзяцей няма, а іншым прыезджым з горада бацькі не вельмі ж дазваляюць!" Сёння хапае жывых хрызантэмаў, не тое што лоні. Таму сёлета прывезлі мы кветкі з Беластока, ну што ж, цяжка трапіць.

На могілках многа людзей, і поўная каплічка, цяжка ўвапхнуцца. Спяшаем на свае магілкі — бацькоў і бабулі. Ставім кветкі, запальваем свечкі і чакаем бацюшкі на прыпамненне і пасвячэнне. Могілкі вялікія, а бацюшкаў „ходзіць" трох, чацвёрты служыць у капліцы. Хутка пасвяцілі, не чакалі, як часам бывала. Усюды пры амаль кожнай магіле стаяць блізкія, могілкі патанаюць у рознакаляровых кветках і агеньчыках...

Цяжка задумацца над мінулым, з'яднацца з блізкімі... Вакол размовы, сустрэчы са знаёмымі... Наведваем з сястрой магілу суседкі Валі, якая адышла ў маі гэтага года, запальваем свечку. Нікога тут няма. Зараз стаю над свежай магілай маёй вясковай сяброўкі з дзяцінства Надзі, якая памерла ў сакавіку гэтага года. Запальваю свечку, успамінаю яе разам з яе дочкамі Данусяй і Геняй:

— Бачыце, дзяўчаткі, яшчэ ў мінулым годзе стаялі мы тут разам з ёю і яе мужам Валодзем, як і штогод раней, нашы магілы блізка, па-суседску...

— Так, — азвалася ціха Дануся, — так хуценька пралятае наша жыццё.

Пакідаем з сястрой Надзяй бацькоўскую магілку, ідзем далей, да бабулі Ганусі. Па дарозе сустракаем сябровак — Таню і Гандзю. Сядзяць яны на лавачцы пры магіле Гандзінага мужа.

— Ніна, што ты не пазнаеш мяне? — праціскаючыся між магіламі затрымлівае мяне Таня.

— А, бач, адразу не пазнала, — прызнаюся. — Усе мы пазмяняліся, пастарэлі. Толькі цябе, Ліда, здалёк пазнала! — працягваю, убачыўшы сваю сяброўку па школьнай парце.

Пагаварылі мы пра хваробы, абмяняліся нумарамі тэлефонаў, пажадалі адна аднай здароўя і разышліся.

Я пайшла далей па могілках, мо ў тлуме людзей, мне ўжо незнаёмых, сустрэну каго-небудзь са сваёй маладосці?

— Валодзя? — падыходжу да свайго даўняга сябра, які гутарыць з аднавяскоўкамі Кацяй, суседкай з Піесак, і Гандзяй з Сярэдзіны.

— Ніна, калі б я сустрэў цябе на вуліцы, не пазнаў бы! — жахаецца Валодзя.

— Ну, што ж, праляціць пару годзікаў і восемдзесят мне стукне, — адказваю, усміхаючыся, ды з сумам у голасе.

— А мне ўжо семдзесят восем стукнула, я бліжэй васьмідзясяткі...

— А выглядаеш знакаміта, не відна па табе, здароўе табе служыць, мо таму, што яшчэ вы ў пары, а я ўжо чацвёрты год адна...

— А я ўжо трыццаць гадоў адна, — уключаецца ў размову Каця, мая сваячніца.

— А я дваццаць годзікаў адзінокая, — дадае Гандзя.

— Ну, што ж, жыццё такое кароткае, як імгненне адной вясны, — падводзіць Валодзя.

Іду далей, між магіламі чытаю прозвішчы на крыжах і бачу ў думках усіх аднавяскоўцаў майго дзяцінства і маёй маладосці, маіх сяброў з пачатковай школы... Іх ужо няма з намі... Здалёк бачу суседку Валю, сваячніцу і нядаўна аўдавелую Ольку. Стаяць яны над магіламі мужоў.

Праз хвілінку «высыпаецца» тлум людзей з каплічкі, пойдуць з хрэсным ходам, вакол царквы. Прылучаемся і мы з сястрой. Не шукаю ўжо знаёмых, трэба памаліцца і ехаць на другія, старыя, як у нас кажуць, могілкі ля царквы.

На старых могілках цішыня. Толькі адна жанчына запальвае свечку. І мы запальваем свечкі на магіле маладзенькага брата нашай мамы Нікіфара і нядаўна «адкрытай» магіле нашага прадзеда Івана Прахорука. Першы раз запалілі яму свечку, хвілінку задумаліся...

Выглянула зноў сонца, ужо пасля поўдня і мы, развітаўшыся з продкамі, пакідаем сваю вёску і ў задуме і цішыні едзем дамоў у Беласток.

Тэкст і фота Ніны БРУЧКО



Крыж на магіле Івана Прахорука



Крыж на магіле з 1923 г. 16-гадовага дзядзькі Нікіфара Федарука, унука прадзеда Івана Прахорука

# Рака Нараўка паўвеку таму

Рака Нараўка жыве ў маіх успамінах. Я нарадзіўся ў Новым Ляўкове — вёсцы, якая знаходзіцца непадалёк ад гэтай ціхай і спакойнай ды некалі рыбнай ракі. Добра памятаю яе з часоў майго дзяцінства. Тады я быў зачараваны акружаючым светам. Па сённяшні дзень вобразы з дзяцінства для мне самыя прыгожыя і чамусьці бачаныя толькі ў яркія сонечныя дні. Якая была тады рака, найлепш памятаю яе якраз у летнюю пару. Тады мы з братам хадзілі лавіць рыбу і купацца. Збіралася больш моладзі.

Рэчка Нараўка была тады акаймаваная зараснікамі вербалозу, чаромхі і кустамі чырвоных і чорных парэчак (смуродзіны). На яе берагах высіліся таксама вольхі. Вада была чыстая-чыстая. Было многа розных відаў рыб. У сонечны дзень яе было выразна відаць, як плавала па дне або выплывала на паверхню вады. Можна было ў ёй перабіраць. Каб налавіць плотак або акунёў, дастаткова было мець вуду. Мы найчасцей хадзілі з вудамі ў г.зв. ралы, дзе ў Нараўку ўплывала рачулка Баброўка. Яна плыве за клунямі сялян Новага Ляўкова. Тут у пагодлівыя дні мы праседжвалі да ночы, вечарам распальвалі вогнішча. Мае сябры лавілі рыбу нават рукамі з-пад навіслых над вадою берагоў ды з-пад кустоў вярбы і алешніку.

Што мы тады ведалі пра раку? Пэўна тое, што плыве яна ад вёскі Нараўкі, дзе быў мост і вадзяны млын. Пасля ўжо даведаліся, што Нараўка плыве цераз Белавежскую пушчу і свой пачатак бярэ за мяжой з Беларуссю, а там недзе з балоцістых мясцін названых Дзікім Нікарам. Калі мы крыху падраслі і былі ў гарцэрскім лагеры на беразе ракі каля Кардону, мы сходзілі ў тое месца, дзе Нараўка ўпадае ў Нарву, каля Бяндзюгі, якая знаходзіцца на яе правым беразе. Тут і ўрочышча Воўчае горла. Рэчка ў некаторых месцах такая завілістая, што плыве наперад, то зноў паварочвае ўбок ды назад. Мы любаваліся „сваёй" ракой. А ўлетку колькі было буслоў!

Рака Нараўка не была меліяраваная (на шчасце) і таму яна захавалася найбольш натуральная, месцамі дзікая. Падчас вясенніх паводак яна выступала з берагоў і залівала прасторныя набярэжныя лугі і сенажаці. Калі сплывала-ўступала зноўку ў свае берагі, мы лавілі шчупакоў проста бегаючы па выгане. Падчас веснавых і асенніх паводак у пяцідзясятых гадах па Нараўцы яшчэ сплаўлялі пушчанскія бярвенні. Я бачыў, як ранняй яшчэ халоднай вясной плылі дзядзькі-арэльшчыкі на павязаных бярвеннях, г.зв. гленях.

Паўсотні гадоў таму рака была яшчэ больш маляўнічая. Я тады рабіў фотаздымкі і дасылаў іх у „Ніву". Такім чынам у нашым беларускім штотыднёвіку можна іх знайсці і палюбавацца той ранейшай прыгажосцю пушчанскай ракі. Недзе ў 1959 або ў 1960 годзе ў „Зорцы" быў здымак прыгожага става ў канцы цячэння Баброўкі. На яго берагах раслі тоўстыя стройныя вольхі ды высокі аер. Зараз мала хто пра яго ведае. На плыткіх месцах раслі жоўтыя рачныя лілеі. Дзяўчаты плялі з іх прыгожыя вянкі. Мы іх прыносілі дадому на букет разам з іншымі лугавымі кветкамі.

Увогуле яшчэ не так даўно берагі Нараўкі былі ў купчастых зарасніках. У іх зімой хаваліся зайцы. Сярод лугоў па кустах здалёк відаць было, дзе цячэ рэчка. Цяпер берагі „голыя" з-за баброў. Рака мае больш за 60 кіламетраў даўжыні. Адна трэцяя частка яе знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі. Зараз гэта ўжо не тая рака, якая была 50-60 гадоў таму. Яна памялела і мне падаецца сумнай. Цяпер яна з аголенымі берагамі. Можна сказаць, што над вадой амаль няма дрэў (а былі перш-наперш маладыя і старыя дуплістыя вольхі, а нават дубы на ўзгорку пасярод навалляўкоўскіх сенажацей, няма густых кустарнікаў вельмі пахучай у маі чаромхі, язміну і парэчак.

Дзе падзелася тая рыба?.. Няма і тых ранейшых маіх сяброў па рыбалцы. Час няспынна плыве і плыве як вада ў рацэ. Прайшлі мае маладыя гады. Надыходзіць нямілая старасць. Мне шкада, што так хутка праляцелі гады. Часу не вернеш назад. Нахлынулі ў галаву ўспаміны мінулага. Пачаў іх запісваць.



Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

Кулінарныя вандроўкі ў часе і прасторы

# У гасцях у Калёніі Ізаака

**Калёнія Ізаака** — калісь вёска Адэльскай гміны Сакольскага павета. Сёння пра яе існаванне напамінае толькі некалькі здзічэлых яблынь, якія парастаюць нешта накшталт прысядзібных садоў, бязлітасна падзеленых пасляваеннай польска-беларускай мяжой. Па назве нескладана здагадацца, што жылі там яўрэі. У Літве, а дакладней у Гродзенскім, Брэсцкім, Драгічынскім, Уладзімірскім і Луцкім паветах пачалі яны сяліцца яшчэ за Вітаўта, згодна з прывілеяй дадзенай ім у 1388 годзе. Так прынамсі сцвярджае Валерыян Буйноўскі ў манаграфіі „Powiat sokólski. Jego przeszłość i stan obecny" (Państwowy Instytut Naukowy Gospodarstwa Wiejskiego w Puławach, Warszawa 1939). У асноўным яўрэі ўтрымліваліся з гандлю і рамяства. Царскія ўлады імкнуліся прымусіць гэтых спакон вякоў прадпрымальнікаў да працы на гаспадарцы. Такім чынам пад Саколкай у 1849-1856 гадах узніклі тры жыдоўскія калёніі: Ханаан, Палясціна і Калёнія Ізаака. Калёнію Ізаака складала 26 сем'яў — перасяленцаў з аддаленага на 2 км Адэльска. Кожная сям'я атрымала надзел па 15 дзесяцін сярэдняй якасці зямлі пад апрацоўку. Бязвопытныя гаспадары неўзабаве папалі ў галечу. 12 сем'яў было вымушаных пакінуць вёску, астаўляючы зямлю іншым сялянам. Пасля 1860 г. узровень жыцця каланістаў падняўся. Дзякуючы падтрымцы Люстрацыйнай камісіі абшар грунтаў павялічыўся да 529 дзесяцін, у тым ліку 404 дзесяціны папаліся яўрэям, 85 — сялянам, а 40 — склала грамадскую пашу. Пасля Першай сусветнай вайны з дапамогай прыйшлі ім яўрэйскія таварыствы, прапануючы нізкапрацэнтныя пазыкі і сельскагаспадарчы інструктаж. У 1930 г. вёску ўзбуйнілі. У руках 29 яўрэйскіх каланістаў апынулася 337 га зямлі. Самастойна апрацоўвала яе толькі 2/3 з іх. Астатнія наймалі працаўнікоў ці аддавалі зямлю ў арэнду. Дзякуючы дапамозе жыдоўскіх таварыстваў, індустрыялізацыі гаспадарак і дадатковым заняткам, такім як гандаль, стандарт жыцця каланістаў без параўнання быў вышэйшы, чым навакольных сялян. Усё роўна ў выніку падзелаў зямлі сярод сям'і і выплаце пасагаў дачкам грунты паступова пераходзілі ў рукі сялян.





У час Другой сусветнай вайны каланісты падзялілі лёс большасці сваіх братоў па веры. Яе канца дачакаліся толькі нешматлікія. Яшчэ да пачатку Галакоста выхадзец, інжынер землярobства Саламон Саліт паспеў спісаць манаграфію роднай вёскі, якая выйшла ў Варшаве ў 1934 г. пад загалоўкам „Калёнія Ізаака, вёска Сакольскага павета".

У сваіх запісках прыводзіць ён вобраз драўляных, пакрытых саломай і гонтай вясковых хат, якія стаяць уздоўж шырокай, абсаджанай тапалямі алеі. У камяніцы жыў толькі ўласнік мясцовай цагельні. Хаты будавалі ў асноўным двухпакаёвыя. У багацейшых гаспадароў была яшчэ вялікая святліца для гасцей. Мэбля таксама залежала ад заможнасці гаспадара. У бяднейшых стаялі пераважна ўслончыкі, стол і некалькі ложкаў.

У памяшканні аднаго з найвялікшых гаспадароў — солтыса — уваходзім з сенцаў у прасторную кухню з двума аконцамі. Па буднях сямейнікі тут ядуць і праводзяць большасць вольнага часу. Дзверы з кухні вядуць у святліцу. У яе тры аконцы і пакрытыя шпалерамі з кветкавым арнаментам сцены і столь. У склад мэбліроўкі ўваходзяць вялікі стол, заўсёды накрыты прыгожым, каляровым абрусам, крэслы, вялікая шафа з люстрам, насценны гадзіннік і партрэты сямейнікаў з Амерыкі ў дэкаратыўных рамках. На падаконніках безліч вазонаў з кветкамі. На маленькім століку стаіць прыгожы патэфон з народнымі і рэлігійнымі па змесце кружэлкамі. У пакоі стаіць таксама пахучая горадам кафляная печ. У святочныя дні тут балююць і прымаюць гасцей. Са святліцы дзверы вядуць у спальню, у якой вялікія дубовыя ложкі засланыя капамі. Маленькая шафка і іншыя дробязі запаўняюць прастору гэтага месца. Усё чыста і ахайна.

Харчуюцца вяскоўцы звычайна тры разы ў дзень. Зімовае меню рашуча адрозніваецца ад летняга. Летні сняданак гэта найчасцей смятана з зялёнай цыбуляй, кава і каша. Бяднейшыя задавальняюцца толькі кашай ці нейкім супам. На абед вараць бульбу і запіваюць яе кіслым малаком. Бывае таксама суп. На вячэру спажываюць зацірку на малаку, смажаць бліны.

Зімовы сняданак гэта селядзец з бульбай, кава, гарбата, крупнік, каша. На абед багацейшыя амаль штодзень спажываюць мяса з кашай. Бяднейшыя абмяжоўваюцца да заціркі ці булёну. Зімовую вячэру састаўляюць гарбата хлеб, масла, сыр і ячня. Бяднейшыя ядуць бульбу. Летам больш карыстаюцца малочнымі прадуктамі. Мяса ядуць амаль выключна ў святочныя дні. Усе пякуць хлеб. Багацейшыя ў пандзелкі прывозяць белы хлеб з Саколкі. Жыхары Калёніі адметныя тым, што ў пятніцу на вячэру найчасцей спажываюць мяса і булкі замест хлеба. Карыстаюцца стравай, зваранай з печанай бручкі ці морквы, якую завуць „цымэс". Назва „цымэс" прыжылася ў наваколлі як сінонім смачнай ежы. У суботу пасля маленняў на абед ядуць чолент — тыповую яўрэйскую страву. Рыхтуюць яе з бульбы, тлустага мяса і фасолі. Пякуць яе ў хлебнай печы з пятніцы на суботу. Алкаголю амаль не ўжываюць, хіба што на свята.

Так было калісь. А цяпер — адна гранічная паласа.

**Іаанна ЧАБАН**

# Дзед Тодар — салдат Першай сусветнай вайны



Тодар Галабурда – салдат Першай сусветнай вайны

Сто гадоў таму пачалася Першая сусветная вайна. У 1914 годзе Беласточчына была часткай Расійскай імперыі, а мясцовыя жыхары — яе грамадзянамі. Маладыя мужчыны былі мабілізаваны на вайну. Сярод іх быў мой дзед Тодар Галабурда з Альхоўкі Нараўчанскай гміны. Было яму тады 24 гады. Пакінуў ён у хаце маладую жонку Марыю і дзевяцімесячную дачушку Насцю.

Будучы старым чалавекам, дзед часам успамінаў свае ваенныя гады. Ад жніўня 1914 да лета 1915 года рускія арміі ваявалі з немцамі і аўстрыйцамі за землі Польскага Каралеўства. Дзед расказваў, як атрад, у якім ён ваяваў, наступаў на Івангорад і Радам. Тодар Галабурда быў там фурманам і давозіў салдатам палявую кухню. Доўга я думаў, які польскі горад называўся пры цары „Івангорадам". Зусім выпадкова, у падручніку гісторыі для сярэдняй школы, знайшоў я маленькую карту ваенных дзеянняў 1914 года, на якой побач назвы Івангорад у дужках было напісана „Дэмблін". Вось якраз пад Дэмблінам мой дзед Тодар быў моцна паранены. Яго падабралі санітары і перадалі дактарам санітарнага поезда. Санітарны поезд завёз салдата аж у Маскву, дзе ў лазарэце ён доўга лячыўся. Пасля лячэння Тодар Галабурда быў накіраваны ў рабочы батальён, які рубаў лес у ваколіцы горада Мурам, далёка на ўсход ад Масквы.

У той час у Расіі адбыліся вялікія гістарычныя падзеі, як Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 года і крывавая грамадзянская вайна 1918-1921 гадоў. Цяжка працуючы ў лесе з ручной пілой і сякерай, малады мужчына захварэў рэўматызмам, так што не мог хадзіць. Дапамагла перамагчы болі народная медыцына — парады мясцовых людзей. Кожны вечар салдат Тодар парыў ногі ў гарачай вадзе, у якую кідалі хвойныя іголкі з мясцовага лесу. Пасля такіх працэдур болі прайшлі, малады чалавек перамог хваробу.

У 1922 годзе ў Расіі закончылася вайна і Тодар Галабурда вырашыў ехаць да сям'і ў Альхоўцы, на ўскраіне Белавежскай пушчы. З яго аповеду вядома, што з Мурама ў Маскву прыехаў поездам. Таксама жалезнадарожным цягнікам ехаў з Масквы ў Мінск. У Мінску дзед даведаўся, што 70 вёрст на захад ад горада пралягла дзяржаўная мяжа, што Беласточчына знаходзіцца ў новай дзяржаве, якая завецца Польшчай. З Мінска да Беласточчыны добрых 350 кіламетраў, якія Тодар Галабурда адмераў пехатой.

Падыходзячы да граніцы, у адной вёсцы пад лесам падарожнік спаткаў хлопцаў, якія пасвілі коней. Гэтыя людзі паказалі дарожку, якая вядзе да дзяржаўнай мяжы. Калі стала змяркацца, удалося чалавеку шчасліва перакрочыць тадышнюю, яшчэ няшчыльную граніцу і паволі ад вёскі да вёскі дайсці да малой айчыны. У роднай хаце была вялікая радасць. Васьмігадовая Насця пазнаёмілася з бацькам, пра якога чула, што пайшоў на вайну.

У міжваенны перыяд Тодар Галабурда працаваў на сваёй гаспадарцы ў некалькі гектараў і дарабляў у лесе дрывасекам у мясцовага ляснічага Седзіка. У час гітлераўскай акупацыі сям'я Галабурдаў жыла ў Шымках у чужых людзей, бо Альхоўку немцы спалілі.

Пад канец жыцця дзед Тодар любіў успамінаць мінулае. Быў ён сведкам пабудовы жалезнай дарогі Седльцы — Ваўкавыск. У свае 16 гадоў хадзіў з лапатай у Плянту, дзе рабілі земляныя насыпы, клалі шпалы і рэйкі. Маладым хлопцам бачыў ён у Белавежы цара, які прыехаў на паляванне. Паляўнічыя наймалі маладых хлопцаў наганяць лясную звярыну.

Жыхары Альхоўкі да Першай сусветнай вайны не ведалі агуркоў, а лясны стражнік Сакалоўскі, які сядзеў на паляне за вёскай, ужо меў агуркі ў сваім агародзе. Маладыя альхоўцы, калі ішлі памагаць стражніку пры сенакосе, гаварылі: „Пойдзем да Сакалоўскага, то пачастуе агуркамі". Стражнік за абедам даваў людзям агуркі і „прымыкаў" вока, калі нехта вёз з пушчы сухое голле.

Мой дзед Тодар пражыў 83 гады і спачывае на праваслаўных могілках у Нараўцы.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

# Catalunya — Independencia

**In... in... indepen... indepen... independencia! Independencia!!! Пачынае скандзіраваць увесь стадыён, калі ў футбол гуляе ФК Барселона. Над галовамі лунае цэлае мора жоўта-чырвоных сцягоў. Чатыры чырвоныя і пяць жоўтых палос — гэта каталонскі сцяг. (Як не дзіўна вельмі падобны на сцяг беластоцкай Ягелоніі.) Калі на сцягу ўбачым яшчэ на цёмнасінім фоне светла-сінюю зорку — тады гэта сцяг незалежнай Каталоніі. ФК Барселона гэта не толькі спартыўны клуб — гэта нешта болей: сімвал змагання за адметнасць, за сваю мову і культуру, за аўтаномію і ўрэшце за дзяржаўную незалежнасць. Асабліва відавочна гэта было ў перыяд дыктатара генералісімуса Франсіска Франка і... зараз.**

Сёлета 9 лістапада ў цэлай Каталоніі мясцовы ўрад зладзіў рэферэндум, у ходзе якога ўдзельнікі галасавання адказвалі на 2 пытанні: Ці хочаце, каб Каталонія была дзяржавай? Ці хочаце, каб была незалежнай? Два разы так адказала звыш 80% — значыць 1,8 мільёна чалавек. Праўда, яўка не перавысіла 50%, ды і наогул цэнтральны ўрад Іспаніі не лічыць рэферэндум легітымным, нязгодным з абавязваючай канстытуцыяй Каралеўства (у такім рэферэндуме патрэбны ўдзел усіх жыхароў краіны).

Варта дадаць, што на мясцовых выбарах два гады таму на групоўкі і партыі, якія рэзка выступаюць за незалежнасць, галасавала прыблізна столькі ж выбаршчыкаў 7,5-мільённай Каталоніі.

Мне асабіста пашанцавала пабываць у гэтай аўтаномнай правінцыі іспанскага каралеўства ў 2012 годзе, акурат 11 верасня. Тады менавіта ў сталічнай Барселоне прайшла звыш мільённая дэманстрацыя з патрабаваннем незалежнасці. Дзень раней ва ўсіх меншых гарадах і курортах славутых турыстычных узбярэжжаў Коста-Брава, Коста-Марэсмэ і Коста-Дурата былі зладжаны шэсці з паходнямі і мітынгі. Таксама з патрабаваннем незалежнасці. У гарадах у кожным другім акне ці балконе вісела **senyera**, значыць сцяг Каталоніі.

Паводле апытання, зробленага нацыянальнай штодзёнкай Каталоніі „**La Vanguardia**", незалежнасць падтрымлівае 55%, супроць — 35%. Так было два гады таму. Цяперашні рэферэндум даказвае рост сепаратызму.

Тады што з'яўляецца яго прычынай?

Паводле вядомага каталонскага пісьменніка Эдуарда Мендосы вялікі ўплыў маюць цэнтральныя ўлады ў Мадрыдзе, якія ўвесь час прыніжаюць ды ігнаруюць каталонскія патрабаванні. А тыя, каталонскія, у сваю чаргу, карыстаючыся вялікай аўтаноміяй, ігнаруюць іспанскі ўрад. Чатыры гады таму забаранілі карыду. Але не па гуманітарных патрабаваннях, толькі нацыяналістычных. Насуперак уласнай традыцыі палічылі, што мусяць быць лепшымі за варвараў іспанцаў. А карыда гэта занятак для пастухоў з Кастыліі. (Кастылія — іспанамоўная частка Каралеўства Іспаніі).

*Пісьменнік кажа («Газэта Выбарчая» 6-7 кастычніка 2012 г.):*

*— Яны (іспанцы) увесь час нас зневажаюць і пераследуюць, — крычаць каталонцы.*

*— Калі, — дапытваецца пісьменнік.*

*— Як калі? У 1714 годзе.*

*— А што мае дарэчы XVIII стагоддзе да сённяшняга дня.*

*— Тады можа пойдзем ваяваць з Францыяй. Кароль з роду Бурбонаў нас у той час перамог.*

Квітнее культура скаргі і пакутніцтва. І калі людзям лепш жывецца, тым больш наракання.

Другая прычына сепаратызму — крызіс, які ахапіў Еўропу, асабліва Іспанію.

Спыненыя інвестыцыі з дзяржаўнага бюджэту, але не з каталонскага, мясцовага. Насуперак цэнтральным уладам каталонцы іх не спыняюць. Гэта мела і мае станоўчае вымярэнне, бо пры агульным 25-працэнтным беспрацоўі ў Каталоніі яно меншае.

І ўвесь час нараканне, маўляў, аддаем у Мадрыд больш як іншыя рэгіёны. Ну бо больш выпрацоўваем валавога даходу. І гэта несправядліва. Але, пераважна, багацейшы больш плаціць падатку.

Пасля смерці генерала Франка ў 1975 годзе ў Іспаніі наступіла ўсеагульная трансфармацыя — пераход ад дыктатарскага ладу да дэмакратычнага. Эдуарда Мендоса гэты час лічыць самым вялікім поспехам Іспаніі. Асабліва пасля 1992 года — першага сацыялістычнага ўрада. Усё пайшло ўперад: ахова здароўя, культура, турызм (прыязджае больш замежных турыстаў чым у Італію), грамадзяне і грамадзянскія правы. Гэта не цэніцца, але гэта час вялікага агульнанацыянальнага поспеху. Для Каталоніі такім пікам былі летнія алімпійскія гульні ў 1992 годзе.

За гэты час ва ўсіх сферах грамадскага і публічнага жыцця наступіў поўны пераход з іспанскай на каталонскую мову. Хаця афіцыйна называецца гэта двухмоўем. Іспанскай (кастылійскай) мове адводзіцца ў каталонскіх школах менш урокаў чым... замежнай, англійскай (зусім наадварот як у Беларусі, дзе таксама маем двухмоўе). Не кажу тут пра нейкія шыльды ці ўказальнікі. Усе яны па-каталонску і па-іспанску, хаця бачыў па-каталонску і па-англійску.

Мендоса лічыць сябе аптымістам са схільнасцю да дурацкай наіўнасці. І не так хвалюецца за будучыню Іспаніі, як Еўропы.

І яшчэ два словы на завяршэнне. Каталонія — аўтаномны рэгіён Іспанскага Каралеўства. Але каталонская мова, ці яе дыялект, ужываецца ў суседніх з ёю рэгіёнах, нават на Балеарскіх астравах (Маёрка, Ібіза), ды ў дзвюх іншых дзяржавах — у Андоры і памежнай з Каталоніяй паласе Францыі. А калі захочуць аб'яднацца?..

У Еўропе адраджаюцца нацыяналізмы, як хаця б на Вугоршчыне ці ў Грэцыі. Хаця пасля сёлетніх выбараў у Еўрапарламент з траўня відаць нацыяналістычныя памкненні ў Францыі і Вялікабрытаніі. Грамадскія хваляванні і сепаратызм пагражаюць Еўропе. З блізкага нам панадворка маем Верхнюю Сілезію і яе памкненні да нібыта аўтаноміі.

Праўда, нядаўні рэферэндум у Шатландыі паказаў, што яны яшчэ не гатовыя на незалежнасць, але сепаратызм існуе. Цікава, што багатая Баварыя не збіраецца адлучыцца ад Нямеччыны. Прынамсі цяпер. Хаця невядома, што здарыцца праз год-два...

**Юрка ЛЯШЧЫНСКІ**

# http://bookster.by

Кнігі — гэта такія рэчы, якія заўсёды можна абмяркоўваць, прычым незалежна ад таго, добрыя яны ці дрэнныя, спадабаліся нам ці не. Але калі параўноўваць над зместам кожнай прачытанай кнігі можа хто заўгодна, то даць кваліфікаваную экспертную ацэнку, якая б мела значэнне для іншых людзей, здолее хіба добры літаратурны крытык.

У час інтэрнэта пазнаёміць шырокія колы грамадства са сваім творам новаму паэту ці пісьменніку значна лягчэй, як і лягчэй даведацца яму аб поглядах грамадства на сваю літаратурную працу. Апошнім часам у гэтым дапамагаюць пісьменніцкія сайты, інтэрнэт-кнігарні, суполкі ў сацыяльных сетках. Але ёсць і адмысловыя сайты, якія спалучаюць у сабе рысы ўсіх трох азначаных накірункаў. Гэта своеасаблівыя сацыяльныя сеткі выключна літаратурнага зместу. Датычна беларускай літаратуры тут можна прыгадаць сайт **http://bookster.by**, што леташняй вясной з'явіўся ў Байнэце.

Калі цікаўны карыстальнік апынецца на даным сайце, то ён не адразу зразумее яго сутнаснай накіраванасці. Гэта адзін з недахопаў вэб-старонкі, якая аніякім чынам не прэзентуе сябе. Таму пра тое, што ўяўляе сабой беларускі **Bookster**, трэба шукаць на іншых сайтах.

„Аматары кніг, аўтары ды крытыкі атрымалі шанц сустрэцца на адной пляцоўцы. У Беларусі з'явіўся сайт для тых, хто чытае, піша і піша пра тое, што чытае. **Bookster.By** — гэта адначасова каталог выданняў, месца для чытання і вынясення вердыктаў", — распавядаецца на сайце Саюза беларускіх пісьменнікаў.

„**Bookster.by** — першая беларускамоўная сацыяльная сетка для аматараў літаратуры, у рамках якой карыстальнікі могуць ацэньваць, абмяркоўваць, а ў будучыні, магчыма, і чытаць улюбёныя творы. Праект рыхтаваўся да запуску два гады", — пішацца ў артыкуле на **Eastbook.eu**.

**Bookster.by** мае ўсяго шэсць рубрык, і сярод іх хапае тых, якія адлюстроўваюць стаўленне да таго ці іншага выдання. Гэта — „Рэцэнзіі", „Рэйтынгі", „Падзеі".

Рубрыка „Навіны" не зусім адпавядае сваёй назве. Яна не столькі прэзентуе новыя выданні, колькі падае аналітычныя артыкулы па тых ці іншых кнігах. Гэта не добра і не дрэнна, проста неадпаведнасць назве.

На старонцы „Крытыкі" можна пабачыць фотапартрэты і кароткія расповеды пра сябе тых, хто ў якасці эксперта выказвае свае думкі наконт тых ці іншых кніг. Прыемна, што колькасць крытыкаў, што друкуюцца на **Bookster.by** не малая — дванццаць чатыры асобы.

Ну а колькасць кніг нідзе не ўказваецца. У рубрыцы „Кнігі" яны падзеленыя па жанрах, аўтарах і выдавецтвах, і на першы погляд агульная колькасць размешчаных на **Bookster.by** выданняў сягае некалькіх соцень.

„Дадайце кнігу, каб дапамагчы нам зрабіць самы лепшы каталог літаратуры ў Байнэце", — кажуць стваральнікі сацыяльнай літаратурнай сеткі, а гэта журналістка Аляксандра Дорская і **IT**-менеджар Арцём Канцавы.

Звычайным аматарам беларускай кнігі будзе цікава выстаўляць ацэнкі, удзельнічаць у рэйтынгаванні, проста размаўляць аб творах і творцах. Але ўсё гэта можна зрабіць, толькі прайшоўшы адпаведную рэгістрацыю на сайце.

Нягледзячы на нязначныя недахопы **Bookster.by** можна з упэўненасцю адзначыць, што ён вельмі патрэбны для развіцця і папулярызацыі беларускай літаратуры, асабліва ва ўмовах выкаранення беларускай мовы ў Беларусі.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

Забыты беларускі святар

# 125 гадоў з дня нараджэння Люцыяна Хвецькі

Люцыян Хвецька — рэлігійны і грамадскі дзеяч, публіцыст, выдавец, каталіцкі святар, адзін з пачынальнікаў беларускага хрысціянскага руху XX стагоддзя нарадзіўся ў вёсцы Малышоўка [цяпер вуліца Дубровы - рэд.] на Сакольшчыне. Пахадзіў ён з сялянскай сям'і. Вучыўся ў народнай школе ў Дуброве, у 1904 г. скончыў Сакольскае гарадское трохкласнае вучылішча. Вытрымаў экзамен на званне аптэкарскага вучня пры экзаменацыйнай камісіі Пецярбургскай навучальнай акругі. У 1907 г. паступіў у Магілёўскую духоўную каталіцкую семінарыю ў Пецярбургу, якую скончыў у жніўні 1911 г. Прадоўжыў вучобу ў Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай акадэміі і скончыў яе ў 1915 г. са ступенню магістра тэалогіі.

Хвецька быў сябрам беларускага культурна-асветнага гуртка ў акадэміі. Супрацоўнічаў з віленскім каталіцкім тыднёвікам «**Biełarus» (1913-1914)** і петраградскім часопісам «Светач» (1916), у якім пад псеўданімам Л. Малышэвіч змяшчаў папулярныя артыкулы. Адзін з заснавальнікаў першай беларускай нацыянальна-рэлігійнай арганізацыі Хрысціянская дэмакратычная злучнасць. Ініцыятар выдання і першы рэдактар-выдавец газеты «**Krynica**». Заснавальнік беларускай каталіцкай выдавецкай суполкі.

Быў пасвечаны ў святары 31 траўня 1915 г. біскупам Янам Цеплякам. Выконваючы душпастырскія абавязкі, служыў вікарыем пракафедральнага касцёла ў Пецярбургу. Да 1918 г. — у духоўнай каталіцкай семінарыі на пасадзе прафесара літургікі. Пэўны час працаваў у семінарыі аканомам. Пасля яе закрыцця бальшавіцкімі ўладамі прызначаны адміністратарам Пецярбургскага пракафедральнага касцёла. У мемарандуме беларускіх сеймавых паслоў-католікаў папу рымскаму ад 15 сакавіка 1923 г. быў прапанаваны на пасаду біскупа-суфрагана Віленскай дыяцэзіі.

Арыштаваны савецкімі ўладамі ў сакавіку 1923 г. Праходзіў па справе біскупа Яна Цепляка і групы петраградскіх святароў, асуджаны на 10 гадоў турэмнага зняволення. У выніку польска-савецкага абмену палітычнымі вязнямі 1 лютага 1925 г. быў датэрмінова вызвалены і дэпартаваны ў Польшчу.

У 1925-1926 гг. выкладаў Закон Божы ў мясцовасці Шыманова пад Варшавай. У канцы 1920-х гадоў, дзякуючы падтрымцы біскупа Эдварда Ропа, працаваў рэктарам Місіянерскага інстытута ў Любліне (1920-1931). Займаўся, між іншым, унійнай працай сярод праваслаўных. З 1932 г. — пробашч парафіі Шчытнікі Пінскай дыяцэзіі. Працаваў у духоўнай каталіцкай семінарыі ў Пінску, дзе займаў пасаду прафесара пастаральнай тэалогіі і выкладаў беларускую мову. У 1933-1939 гг. — скарбнік дыяцэзіяльнай курыі і віцэ-старшыня дыяцэзіяльнай рады.

З верасня 1939 г. працаваў у мясцовасці Хотава (зараз Стаўбцоўскі раён). Тут у час нямецкай акупацыі стаў ён аб'ектам нападаў і збівання мясцовымі рабаўнікамі, якія называлі сябе партызанамі. У лютым 1944 г. у час аднаго з такіх нападаў ксёндз Люцыян Хвецька ўцёк з плябаніі ў адной бялізне і босы, моцна прастыў, захварэў і праз кароткі час — 28 красавіка — памёр у шпіталі ў Стоўбцах. Пахаваны пры касцёле ў Хотаве. Больш падрабязную інфармацыю пра дзейнасць Люцыяна Хвецькі можна знайсці ў працах гісторыкаў Юрыя Туронка, Юрася Гарбінскага, Янкі Трацяка. Звестак пра ўшанаванне Хвецькі мемарыяльнымі таблічкамі ці помнікамі няма.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Дзень сеніёра ў Кляшчэлях

■ На першым плане злева: Ірэна Негярэвіч, Надзея Мароз, Яўгенія Гладзкая і Яўгенія Шыдлоўская

Гарадскі асяродак спорту і адпачынку ў Кляшчэлях, пры саўдзельніцтве кола Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў арганізавалі Дзень сеніёра. Імпрэза праходзіла 7 лістапада ў мясцовым цэнтры культуры „Гладышка". У сустрэчы ўдзельнічала восемдзесят чалавек, у тым ліку бургамістр Ірэна Негярэвіч ды сеніёры партнёрскіх арганізацыі з Гайнаўскай, Белавежскай, Нарваўскай і Чыжоўскай гмін. З Чаромхаўскай гміны запрашэннем пакарысталіся тры асобы, ніжэйпадпісаны і сужонства Лідзія і Здзіслаў Закшэўскія.

Кляшчэлеўскае кола лічыць каля сотні членаў. Старшынёю з'яўляецца Надзея Мароз. Арганізацыйна звяно прыналежыць Гайнаўскаму раённаму аддзяленню. У рамках сяброўскіх кантактаў сеніёры згуртавання ў Саюзе польскіх пенсіянераў і інвалідаў ладзяць культурны абмен, адны другіх запрашаюць у госці. Нядаўна кляшчэлеўцы гасцявалі ў Нарве. Зараз прымаюць сяброў у сябе.

З прывітальным словам выступілі Надзея Мароз і бургамістр Ірэна Негярэвіч, якая павіншавала васьмідзесяцігадовых сеніёраў Яўгенію Гладзкую і Яўгенію Шыдлоўскую, затым уручыла ім віншавалныя граматы і падарункі. Падарункі атрымала Ірэна Манцюк з нагоды дня нараджэння. Ганаровыя граматы за плённае супрацоўніцтва з гмінай атрымалі Марыя Вапа, Людміла Ваўрыновіч і Надзея Мароз. У гонар юбіляраў і ўзнагароджаных прысутныя выканалі традыцыйныя „Сто лят" і „Многае лета". Затым палачку вядучага пераняў Марк Скамароўскі. Гэта сапраўдны мастак па канферансе і заадно выдатны спявак!

Застолле пачалося а 15-й гадзіне і доўжылася да позняга вечара. Да танца падыгрываў музычны гурт „Метро". Музыканты не давалі перадышкі танцорам. Рэзалі напераменку польскія, беларускія, украінскія і рускія гіты. А ў перапынку гучалі застольныя песні. Дашоўская „Каліна" запрэзентавала дзве гумарэскі: „Бацькоўскае баслаўленне" і „Кумы", а Марк Скамароўскі выканаў некалькі песень, між іншым „Жураве" і „Вішня". Былі і конкурсы з узнагародамі, напрыклад, на выкананне песні, затым дэманстрацыя танца (для пар) — класічнага, нацыянальнага, твіста і вальса. Шмат пацехі і смеху выклікала інсцэнізацыя даўнейшай шлюбнай прапановы з перыяду каменнага веку, сярэднявечча і сучаснага часу. А важаком гэтых атракцыёнаў быў Марк Скамароўскі. На гармоніку яму падыгрываў Зянон Селеваноўскі, дырэктар ГАКСіА. Варта адзначыць, што застолле рыхтавалі самі ўдзельнікі імпрэзы. Шкада, што на пачастунак паскупілі сваім сеніёрам акруговае аддзяленне пенсіянерскага саюза ў Беластоку і раённае ў Гайнаўцы. Сумнае, але праўдзівае. Нягледзячы на гэта, кляшчэлеўснія Дні сеніёра лічу ўдалым мерапрыемствам. А заслуга гэта арганізатараў. За тое шчырае ім дзякуй!...

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

## У ніўскім фотааб'ектыве

### Выбарчы ўспамін

**У Новай Волі старшыня ГП БГКТ, кандыдат у Соймік Падляшскага ваяводства „нечакана правраўся" на пост бургамістра ўсіх жыхароў Міхалова. А мо прарочы выклік за чатыры гады?**

Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. вялікая пасудзіна для вадкасцей = 26 _ 2 _ 11 _;
2. запруда для павышэння ўзроўню вады = 23 _ 22 _ 37 _ 38 _;
3. празвішча аўтара „Мёртвых душ" = 32 _ 25 _ 4 _ 3 _ 24 _ 14 _;
4. сталіца Катара = 34 _ 12 _ 29 _ 35 _;
5. у трыядзе з верай і надзеяй = 5 _ 36 _ 7 _ 6 _ 10 _;
6. лякарства спрасаванае ў форме шарыка = 30 _ 33 _ 27 _ 17 _ 8 _ 9 _;
7. вялікая драпежная неядавітая змяя трапічнай зоны = 31 _ 1 _ 20 _ 21 _;
8. уласцівасць, якая характарызуе ступень прыгоднасці прадмета = 28 _ 15 _16 _ 13 _ 18 _ 19 _.

(ш)

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| | 30 | 31 | 32 | 33 | | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 |

Сярод чытачоў, якія дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 44 нумара**

Акіян, траўма, агарод, Уайльд, Сварог, Ціса, аер, „Ост", буран, атракцыён, Ява, Івянец, Цюрых, рак, горла.

Рашэнне: **Гульня ў маладосці дае хваробу на старыя косці**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2015 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

## 23.11 — 29.11

**(22.03. — 20.04.)** Час на снаванне супольных планаў, кампрамісы, шчырыя прызнанні. Выразна паправіцца настрой, шмат аптымізму, энергіі. Але не насі цяпер цяжкага, не скачы і не натужвайся. Дбай таксама аб сваё меню, еж кашы, гародніну, адмоўся ад тлустага і салодкага. Плануй свае выдаткі.

**(21.04. — 21.05.)** Новыя знаёмствы і спантаннасць у адносінах. Трэба будзе паафармляць усе неадкладныя справы. З 27.11. паявіцца вельмі цяжкая асоба, якая будзе сеяць фермент і хутка яе не прагоніш. Але можаш таксама спаткаць чалавека, які стане тваім адданым сябрам.

**(22.05. — 22.06.)** Калі ты ў нейкіх свежых адносінах, пройдуць яны выпрабаванне. Калі аб'ект тваіх прызнанняў не адкажа пачуццямі, якімі яго адорваеш, адразу адступішся; можа тады зразумее, што страціў? Не сядзі дома, сарганізуй нейкі івент пад „андрэйкі" або схадзі на танцы. Будзе добрая забава і адпачынак! Абавязкова кантралюй сваё здароўе. Можаш прыашчадзіць крыху грошай. 24-28.11. вельмі пільнуй сваё здароўе і не бяры на сябе зашмат.

**(23.06. — 23.07.)** 25-29.11. у пачуццях набярэшся большай свабоды і самаўпэўненасці. Не мусіш у чым-небудзь абмяжоўвацца! Адно моцна пільнуй сваё горла, не прастудзіся і не заразіся. Можаш сесці на новую дыету, вынікі будуць хуткія і ашаламляльныя!

**(24.07. — 23.08.)** Дазволіш сабе на больш свабоды, не адмаўляй сабе прыемнасцей. Карыстайся! Чэрпай з жыцця поўнымі жменямі, смейся, частуйся. Будзеш жыццярадасны, жвавы, сімпатычны. Удадуцца твае прагрэсіўныя планы. Але не ўпакуйся ў нейкія крэдыты. Ільвам з трэцяй дэкады могуць дакучаць нейкія застарэлыя нямогласці — са страваваннем або пазваночнікам.

**(24.08. — 23.09.)** 23-25.11. цяжка будзе выканаць нейкае абяцанне. Не дазваляй занадта на ўсё сваім дзецям. Падакучаць табе могуць раптоўныя болі галавы і радыкуліт („кажонкі"), а ўсё гэта з-за жыцця на поўную катушку. Старайся разгрузіць стрэс і напругу. З 28.11. будзеш асабліва быстры, аформіш кожную справу, а на працы цябе дацэняць. Не раскідвайся грашыма.

**(24.09. — 23.10.)** Можаш атрымаць новыя цікавыя прапановы занятку. 25-29.11. захапляльныя прыгоды, новыя ўражанні, цікавыя знаёмствы; атрымаеш важныя інфармацыі. Будзеш мець вялікую сілу пераконвання іншых. Калі перажываеш крызіс у пары, набяры новага дыху, пастарайся сарганізаваць мілы супольны вечар.

**(24.10. — 22.11.)** Вельмі прыкладзіся да таго, каб задбаць аб здароўе, дамоўся ў лекара або на серыю масажаў, пацікаўся неканвенцыянальнай медыцынай. Еж супы з вялікай колькасцю гародніны і кашы, што можа памагчы табе таксама пры суставах. Цяпер і з дыетай справішся! Варушыся. Не насі з сабою многа грошай.

**(23.11. — 22.12.)** 22-26.11. можаш адчуваць знеахвочанне і можа быць табе цяжка, бо не будзе хапаць сілы закончыць неадкладныя справы. Страпяніся! Бо прыйшлі найлепшыя дні на найлепшыя рандэву! Без цяжкасці не дасі задуцца гаснучаму полымю кахання. Партнёру таксама будзе залежаць, каб было ўсё як найлепш. Вельмі бараніся ад холаду! Многа новых магчымасцей у фінансах. Калі гэта добра разыграеш, наступіць час вялікіх інвестыцый і зможаш жыць нават у камфорце!

**(23.12. — 20.01.)** 24-28.11. прыйдуць табе ў галаву цудоўныя задумы! Справішся нават з найбольш складанымі сітуацыямі. Добры настрой, някепска са здароўем, але калі цябе штосьці ў ім трывожыць, не адцягвай візіту ў лекара.

**(21.01. — 19.02.)** Калі ўздыхаеш да кагосьці, каго кахаў гады таму — пільнуйся, каб не правароніць з-за мрояў шанцаў на ўдалую рэальную сувязь. Выдатны час на сустрэчы з сябрамі; гарантавана не толькі файная забава, але і рэальная дапамога. Сонца напоўніць цябе сілай і энергіяй. Лепшыя фінансавыя магчымасці; можаш выйграць! 26-30.11. чакаюць цябе спрэчкі на працы з-за зайздрасці за твае поспехі.

**(20.02. — 21.03.)** У пастаянных парах — больш агню. Стабілізацыі шукай у сям'і. 25-29.11. старайся не задзіраць з асобамі, якіх добра не ведаеш. Зважай таксама на недахоп цярплівасці — ён шкодны для твайго пачуццёвага жыцця. Непаўторная сітуацыя ад фартуны — нічога лепшага табе не прытрапілася б!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Украіна
## ў цяні вайны (8)

На зямлі ўжо і не так шмат месцаў, куды хочацца зноў вярнуцца. А ў Ярэмчэ хочацца як нідзе, і здаецца тут адзін магніт: магутны Прут. Мелодыя гэтай ракі, ужо пасля першай сустрэчы, наклікае пачуццё падобнае да ачмурэння. Усё тут здаецца больш інтэнсіўным, прыгожым і смачным. Сіла пазітыўнай ілюзіі, якую зазналі мы на сваіх мазгах і целе, выцякала тут літаральна з вады. Карпацкі народ невыпадкова праслаўляе свае рэчкі ў песнях і называе іх чароўнымі...

Нас ужо на „добры дзень" апанавалі гуцульскія чары. Усё нам падабалася і захапляла, нейкія сілы падказвалі куды падацца і ад чаго адхіляцца.

На самой справе ў пасёлку не было вялікіх атракцыёнаў і таго залатога бляску, якім маняць турыстаў. Уся сусветнасць Ярэмчэ зводзілася да адной вуліцы, пры якой працавалі рэстараны і крамы з турыстычнай вытворчасцю. Тут таксама шпацыравалі турысты, якія ішлі з канца ў канец пасёлка, а пасля вярталіся і зноў ішлі з канца ў канец той жа адной вуліцай. І так кругаля, быццам у якім трансе...

Ніхто не хацеў павярнуць у бакавыя вулачкі, дзе ішло прыхаванае ад прыезджых вачэй жыццё-быццё гуцулаў, дзе з кожнага кутка атакаваў каўбасны пах грыляў, хатычныя забудовы на панадворках і назойлівыя дварнякі.



* * *

Мы таксама далучыліся да шпацыруючага марафону і, быццам падшпіленыя, пацягнуліся без толку і патрэбы вуліцай-праменадам, прыаздобленым кветкамі і *смэрэкамі*. Ярэмчэ здзівіла сваёй засяроджанасцю. Паколькі ў падобных месцах прыезджыя заяўляюць усяму свету сімпатыю, пасылаюць незнаёмым мінакам направа і налева ўсмешкі ды прывітанні, тут усе былі загледжаны толькі на сябе і ў сябе. Што і крок праходжваліся парачкі, трымаючыся за ручкі, парачкі ў абдымках, яшчэ іншыя цалаваліся на вуліцы як у якім Парыжы. Гэтая дэманстрацыя чуллівасці і кахання праманіфестоўвала як адказ на ваенныя падзеі на ўсходзе. Парадаксальна, вялікі страх перад вайной і смерцю вельмі моцна мабілізаваў да кахання і працягу жыцця. Прага нараджаць новых абаронцаў краіны тут бачылася простым вокам.



Цягам бліжэйшага ўік-энду, едучы па карпацкім маршруце з Ярэмчэ ў Мукачэва, мы што і раз міналі вяселлі. На гэтым адрэзку налічылі аж 17 пар. Адны ехалі да шлюбу, іншыя ўжо гасцявалі ў прыдарожных заезных дамах і гатэлях. Маладыя і частка вясельнікаў часта былі апрануты ў народныя вышыванкі, каб такім чынам прадэманстраваць сваю адданасць і веру ў перамогу сваёй краіны...

Уся Карпатыя была прыаздоблена чырвона-чорнымі сцяжкамі нацыянал-радыкалаў. Наш гаспадар пансіяната, ментальны еўрапеец, такія сцяжкі пачапіў на сваіх трох машынах. А ўваход на панадворак значылі сцяг Еўрасаюза і сіне-жоўты дзяржаўны сцяг.

На пытанне ці гэта не насцярожыць рускамоўных турыстаў, ён здзівіўся:

— Усе зараз так павесілі!

Ля самога праменаду таксама лунаі чорна-чырвоныя сцяжкі, на якія загледжаныя на сябе турысты не звярталі ўвагі.

* * *

— Купляйце цёплыя шкарпэткі, цяжкая зіма ідзе, — намаўляла нас цётка ў краме з турыстычнымі сувенірамі.

— Зіма, кажаце, цяжкая ідзе? — паўтарылі мы ў захапленні. Горцы першыя спецыялісты па народным прадказванні надвор'я. За незразуменне і недахоп патрыятычнай гатоўнасці мы з ходу атрымалі аплявуху:

— А што, вы не чулі, што Пуцін нам газ перакрыў!

У голасе гандляркі былі гнеў і педагогіка: трэба ўсімі грамадскімі справамі цікавіцца!

З другога боку было прыемна, што цётка палічыла нас сваімі. Ды і шкарпэткі, якія яна прапанавала, найбольш падыходзілі да гуцульскага прадукта. Яны ўтрымлівалі карычнева-аранжавую каларыстыку і карпацкі брэнд: аленя. Усё апошняе выглядала як масавая фабрычная вытворчасць з Кітая ці Індыі. Сярод турыстычных сувеніраў прапанавалі тут драўляныя каралі, ваўняныя шалікі і рукавічкі, драўляныя лыжкі і гліняны посуд, цялячыя і аўчыныя шкуры. Хоць і так усё мінавала апошняя мода: вышыванкі. Кашулі, камізэлькі, сукенкі ў кожным колеры і на любы ўзрост і нагоду, ад немаўляці па старэчу, ад хрысцін па вопратку ў труну. Апошняя вышыванка несла ў сабе загваздку: паводле народных звычак у чорныя вышыванкі апраналі адыходзячых у лепшы свет. Сёння ўсё перамалолася, чорныя вышыванкі ўвайшлі ў канон сучаснай моды і яны паўсюдныя як хлеб надзённы. Іх пабачыце на вуліцы, на дзяржаўных урачыстасцях, на сямейных святах. Я сама набыла такую кашулю, а пасля моцна здзівілася — яе, як і шмат іншых „украінскіх сувеніраў", пашылі ў Індыі. Д. таксама здзівілася, калі агледзелася, што „украінскае" палатно ў кветкі саткалі ў Японіі.



Ля прылаўкаў з турыстычнымі фінцклюшкамі і вышыванкамі найбольш здзівіла група рускамоўных турыстаў, якія мералі кашулі са зневажальным лозунгам пра расійскага прэзідэнта „Путин х..." і рагаталі як карпацкія мядзведзі.

Фасон, як пасля не раз пабачым на тратуары, выклікаў сапраўдны фурор сярод турыстаў, мужыкі спецыяльна выпіналі грудзі, каб прадэманстраваць сваю адвагу.

* * *

Рэха вайны, зусім нечакана, адбілася ў кулінарыі. Хоць яда і пітво здаваліся элегантна падрыхтаванымі і недарагімі, турысты наракалі на раптоўнае павышэнне цэн. Мы пайшлі ў бар пазначаны выявай „трызуба", непадалёк пансіяната. Ад парога прывітала нас расійская музыка, вядома, пра ідэальнае каханне. За суседнім столікам, дзе абедала прыгожая сямейка (татка, маці і дачушка), таксама размаўлялі парасійску. На такой мове звярнуўся і да нас афіцыянт, прапануючы стравы. Сярод прапаноў пераважалі стравы з чорнай і чырвонай ікрой або свінінай. Каб прадэманстраваць прывязанасць да гуцульскай кулінарыі мы насуперак модзе і, здаецца, незадаволенасці абслугі, заказалі ўкраінскі боршч і варэнікі. Наш выбар відаць не спадабаўся абслузе. Спачатку стравы гатаваліся „рускі месяц", а пасля, калі іх прынеслі на стол, не было чаго есці. На мініяцюрнай талерцы красаваліся толькі тры варэнікі.

— Вось такія пірагі! — мы цяжка ўздыхнулі і з жалем ды прэтэнзіямі зірнулі на выяву „трызуба" ды пацягнулі ў магазін за прадуктамі. Народ, які чакаў у чарзе, таксама наракаў на дарагавізну.

(працяг будзе)

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**


ISSN 0546-1960